# Бацькаўшчына



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA" („VATERLAND")**

**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**

**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.**

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 38—39 (573—574) — Нядзеля 24-га верасьня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# СЬПІ СПАКОЙНА...

**«Маці родная, маці-краіна!**
**Ня усьцішыцца гэтакі боль.**
**Ты прабач, Ты прымі свайго сына —**
**За Цябе яму ўмерці дазволь»...**

**Максім Багдановіч**

**«Я больш не магу быць камуністым. За час майго падарожжа па Францыі я пазнаў значэньне слова «Свабода». Але я не магу адмовіцца і ад мае краіны, я не магу наважыцца застацца заграніцай... Сьмерць — адзінае вырашэньне драмы, якую я перажываю. Няхай прабачыць мне мая краіна. Няхай прабачаць мне мая жонка й мае дзеці...»**

**Усевалад Краўчанка**

Мінула ўжо некалькі тыдняў ад трагічнай даты 27-га жніўня. У той дзень, далёка ад Беларусі, у францускім горадзе Кан, перад адным з гатэляў натоўп народу й француская паліцыя стаялі перад разьбітым мёртвым целам беларускага пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі. Паліцыя знайшла і ліст, у якім Краўчанка тлумачыў свой крок. І вось, на вуліцы францускага гораду, а задно і перад вачыма цэлага сьвету ляжаў нямы труп. І ўсё-ж ён гаварыў галасьней за жывых, галасьней за сваіх былых калегаў-пісьменьнікаў, што разам зь ім прыехалі ў Францыю — і тым больш за тых, што засталіся ў Беларусі...

Усевалад Краўчанка быў у поўным росквіце сваіх жыцьцёвых і творчых сілаў. Яго з поўным правам можна было-б назваць **сынам рэвалюцыі** — як з гледзішча веку, так і творчага шляху. Ён быў сябрам партыі. І раптам —

**«Я больш не магу быць камуністым... Я пазнаў значэньне слова «Свабода»... Няхай прабачыць мне мая краіна...»**

У **якой** краіны просіць нябожчык Краўчанка прабачэньня? Можа ў «всеоб'ятной советской родіны», гэтай турмы народаў? Не — сам за сябе гаворыць маленькі, але які-ж шматзначны эпізод, які меў месца падчас аднаго з папярэдніх падарожжаў пісьменьніка заграніцу — у Італіі. На пытаньне аднаго Італьянца, Усевалад Краўчанка адказаў: «Мы сапраўды савецкія турыстыя але не Расейцы, а Беларусы». А як-жа красамоўна сьветчыць аб бязьмежнай любові да свайго роднага краю і тое, што у сваім перадсьмяротным лісьце пісьменьнік паставіў яго — родны край — навет перад сваёй сям'ёй і дзяцьмі...

**«Няхай прабачыць мне мая краіна»...**

**За што** прасіў прабачэньня ў роднага краю Ўсевалад Краўчанка? Пэўна-ж, **не** за тое, што ён «ня можа быць больш камуністым», **не** за тое, што ён «пазнаў значэньне слова «Свабода»...

Як мы казалі, Усевалада Краўчанку з поўным правам можна назваць сынам рэвалюцыі. Ён вырас ужо ў падсавецкай Беларусі, ягоны сьветапагляд фармавалі ад самага пачатку бальшавіцкія акупанты. Не забываймася, што сваю літаратурную творчасьць ён пачаў у 1933-м годзе, а тады яму было толькі 18 год... Ці трэба дзівіцца, што на працягу даўгіх год малады пісьменьнік паставіў свой неаспрэчны талент на службу рэжыму, які, быццам — а гэта-ж убівалі ў галовы моладзі на кажным кроку — прынёс нацыянальную свабоду і сацыяльную справядлівасьць народам, паняволеным раней у былой Расейскай царскай імпэрыі — а значыцца і Беларусі? Бо патрыётам свайго краю Усевалад Краўчанка быў заўсёды. Верачы бальшавіцкай прапаганьдзе, ён думаў, што служачы рэжыму, ён служыць Беларусі.

Але із сталасьцяй прыходзіць роздум. Пісьменьнік, папершае, ня мог ня ўсьведаміць сабе, што ягонае пяро ня можа пераступіць рамак партыйных дырэктываў, што гэтыя дырэктывы скоўваюць ягоны талент, не даюць яму адлюстроўваць рэчаіснасьць, бараніць правы свайго народу. Усевалад Краўчанка зразумеў, што ён — нявольнік. Ён наглядаў жыцьцё свайго народу, жыцьцё іншых народаў СССР — і пабачыў, што яны ўсе нявольнікі рэжыму, які пазбавіў іх самых элемэнтарных людзкіх і народных правоў. Мала таго — ён урэшце ўсьведаміў сабе, што аддаючы свой талент на службу гэтаму рэжыму, ён здраджае свой народ. У душы Ўсевалада Краўчанкі паволі нарастае пералом. Партыйны білет, ардэны й мэдалі, матарыяльна забясьпечанае жыцьцё не асьляпілі гэтага сумленнага чалавека і Беларуса.

Што-ж рабіць? Пратэставаць? Але як гэта магчыма ўва ўмовах бальшавіцкай дыктатуры?

І ўсё-ж Усевалад Краўчанка пратэстуе — у меру магчымасьцяў, ужываючы сваю адзіную зброю — пяро. Ён пратэстуе супраць бальшавіцкае няволі, заяўляючы — быццам, між іншага — што **чалавек вольны можа мяняць свае пляны паводля ўласнага жаданьня** (у апавяданьні «Зорка Вэнэра»), супраць таго, што **«лезуць у душу з капытамі»** (у апавяданьні «Цяжкае вяртаньне»), заяўляе, што **Беларусы ня горшыя за іншых** (у прыгаданай ужо «Зорцы Вэнэры») — і гэтак далей. Стаўшыся рэдактарам часапісу для дзяцей «Бярозка», ён атрымаў магчымасьць унікаць у сваёй творчасьці «сацрэалістычных» шаблёнаў, і прысьвяціў сваю галоўную ўвагу ўзгадаваньню беларускіх дзяцей у духу любові да свайго роднага краю. Ягоная апошняя кніга, для моладзі — — «Злачынства ля зялёнай тоні» — прысьвечаная ахове роднай прыроды. І, пэўна-ж, ня толькі родную **прыроду** меў на ўвазе Ўсевалад Краўчанка...

Ня гледзячы на ўжо насьпелую сьведамасьць антынароднасьці бальшавіцкага рэжыму, для пісьменьніка ня мог ня быць шокам новы праект праграмы КПСС, дзе, побач з абабітымі фразамі аб «вырашаным нацыянальным пытаньні», адкрыта й цынічна абвяшчаецца аб заплянаваным культурным і нацыянальным генацыдзе паняволеных Масквой народаў. Сэрца патрыёта, носьбіта беларускае культуры, не магло ня ўздрыгануцца.

Апошняе турыстычнае падарожжа ў Францыю дапоўніла чару горычы Ўсевалада Краўчанкі.

**«Я пазнаў значэньне слова «Свабода»... Сьмерць — адзінае вырашэньне драмы, якую я перажываю...»**

Беларуская савецкая прэса спачатку маўчала. Толькі 5 верасьня — 9 дзён пасьля трагічнай сьмерці пісьменьніка — зьявіліся нэкралёгі й спачуваньні. Пэўна-ж — толькі таму, што маўчаць далей было нельга. Аб гэтым гаварыў ужо цэлы Менск. Партыйныя заправілы былі прыпертыя да сьцяны. Урэшце, яны пастанавілі прапусьціць у друк вестку аб «заўчаснай трагічнай сьмерці» Усевалада Краўчанкі, **не паведамляючы ні аб месцы, ні аб абставінах гэтай сьмерці.** Але й тут яны выдалі самых сябе, саромліва абмінуўшы маўчаньнем факт, што пісьменьнік быў сябрам КПСС, што ён быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і мэдалямі за калішнюю службу рэжыму — рэжыму, у знак пратэсту супраць якога ён ахвяраваў цяпер жыцьцё.

**«Няхай прабачыць мне мая краіна...»**

**«Ты прабач, Ты прымі свайго сына, за Цябе яму ўмерці дазволь»,** — ці ня гэтыя радкі Багдановічавае «Пагоні» гучэлі ў думках Усевалада Краўчанкі, калі ён пісаў свой перадсьмяротны ліст?

Сьпі спакойна, верны сыне Беларусі! Ты ня мусіш прасіць у яе прабачэньня. Ты памёр за яе, пайшоў на найбольшую ахвяру, каб зьвярнуць увагу сьвету на няволю твайго народу. Ты памёр і за тых, што, як і ты раней — прымушаныя абставінамі, носяць партыйны білет, але ў душы застаюцца патрыётамі свайго народу.

Сьпі спакойна, верны сыне Беларусі!

**Ул. Немановіч**

# Выбары ў Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы

17-га верасьня ў Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы адбыліся выбары ў заходня-нямецкі Бундэстаг. Партыя хрысьціянскіх дэмакратаў, да якое належыць канцлер Адэнаўэр, атрымала 45 і 3 дзесятыя працэнта галасоў і будзе мець 241 мандат у Бундэстагу. Партыя сацыял-дэмакратаў, якая высунула кандыдатуру на становішча канцлера бургомістра Вілі Брандта, заняла паводля колькасьці мандатаў другое месца. За ейных кандыдатаў галасавала 36 і 3 дзесятыя працэнты выбаршчыкаў. Цяпер у Бундэстагу сацыял-дэмакраты будуць мець 190 мандатаў. Трэйцяя паводля вялічыні палітычная партыя — партыя свабодных дэмакратаў, за якую было пададзена 12 і 7 дзесятых працэнта галасоў, будзе мець у Бундэстагу 66 месцаў. У параўнаньні з выбарамі 1957-га году, за кандыдатаў партыі свабодных дэмакратаў, лібэральнай паводля свайго кірунку, пададзена амаль падвойная колькасьць галасоў. Для настрояў заходня-нямецкіх выбаршчыкаў характэрны наступны факт: палітычная групоўка «Саюз выгнаных з бацькаўшчыны і пазбаўленых правоў», якая ведамая сваімі рэваншысцкімі тэндэнцыямі, на выбарах у 1957-ым годзе атрымала 4 і 6 дзесятых працэнта галасоў. На цяперашніх выбарах гэты саюз пацярпеў поўную паразу і ня будзе мець ніводнага мандату ў Бундэстагу.

Урадавая партыя хрысьціянскіх дэмакратаў хоць і страціла абсалютную бальшыню, застаецца ўсё-ж наймацнейшай з усіх палітычных партыяў, прадстаўленых ў Бундэстагу Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі. Цяпер ў заходня-нямецкіх палітычных колах абмяркоўваецца пытаньне аб магчымасьці стварэньня кааліцыйнага ўраду. Лідэр партыі свабодных дэмакратаў Эрых Мэндэ заявіў, што калі ягоная партыя ўвойдзе ўва ўрадавую кааліцыю з партыяй хрысьціянскіх дэмакратаў, дык праўдападобным кандыдатам на становішча канцлера будзе цяперашні міністар экономікі Людвіг Эргард. Адзін зь лідэраў сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны, обэр-бургомістар Заходняга Бэрліну Вілі Брандт выступаючы на прэсавай канфэрэнцыі, заявіў, што сацыял-дэмакраты гатовыя стварыць урадавую кааліцыю з партыяй хрысьціянскіх дэмакратаў. Аднак магчымасьць стварэньня такой кааліцыі ўважаецца мала верагоднай.

# Вялікая страта для людзтва

Бадай ня было выпадку, каб гібель аднаго чалавека так глыбака скалынула і ўстрывожыла цэлы сьвет, як трагічная сьмерць у Афрыцы Генэральнага Сакратара АЗН Гамаршэльда.

Вестка пра самалётную катастрофу, ў якой загінуў Гамаршэльд, стала вядомая 18 верасьня, хоць абставіны гэтай катастрофы яшчэ ня высьветленыя. Вядома пакуль-што, што разам з Гамаршэльдам загінула яшчэ колькі асобаў і толькі адзін пасажыр самалёту, цяжка пашкоджаны, застаўся пакуль-што пры жыцьці.

Якія-б сэнсацыйныя дэталі не падаваліся ў выніку далейшага расьсьледу гэтага трагічнага выпадку, яны наўрад ці зьменяць асноўны факт.

16-ая Генэральная Асамблея АЗН, што пачалася ў аўторак 19 верасьня, стаіць ня толькі перад найвайстрэйшым паваенным крызісам у сьвеце, але й перад цяжкім крызісам унутры самое арганізацыі. І гэты факт прызнаецца амаль усімі дзяржаўнымі кіраўнікамі й выказвальнікамі свабоднае грамадзкае думкі ўсіх краёў сьвету. Цяпер, калі Генэральная Асамблея АЗН стаіць перад больш чымся 90 пунктамі парадку дня, першым і найскладанейшым пытаньнем сталася пытаньне, хто мае ачоліць у будучыні асноўны выканаўчы орган Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў — ейны сакратарыят.

Абставіны гібелі Гамаршэльда пакуль што ня высьветленыя. Аднак, калі-б Хрушчоў верыў у забабоны, дык ён меўбы ўсе асновы прызнацца, што сіла выпадку ўладзіла справу на ягоную карысьць. Назіральнікі зазначаюць, што напорыстыя дамаганьні Савецкага Саюзу пазбавіць АЗН ад Генэральнага Сакратара ў ваднэй асобе ды замяніць яго трыма прадстўнікамі, кажны з правам вэта, — дамаганьні гэтыя цяпер у значнай меры аблегчаныя. На Захадзе на гэтую савецкую прапанову глядзіцца, як на спробу спаралізаваць дзейнасьць АЗН. Пакуль-што цяжка сказаць, як пытаньне сакратарыяту АЗН будзе разьвязанае. Справы тымчасам пераняла Рада Бясьпекі, у якую ўваходзяць 11 дзяржаваў, у тым ліку Злучаныя Штаты Амэрыкі і Савецкі Саюз. Абставіны ўскладняюцца тым, што паводля статуту АЗН наступнік Гамаршэльда павінен быць вызначаны Радай Бясьпекі аднагалосна. На аднагалоснасьць-жа у Радзе Бясьпекі, асноўваючыся на дасюлешней практыцы, назіральнікі не спадзяюцца, бо 5 ейных сталых сяброў маюць права вэта.

Тымчасам з цэлага сьвету ў Амэрыку прыходзяць весткі пра глыбокі жаль, які выклікала трагічная сьмерць Гамаршэльда. Генэральны Сакратар АЗН быў вядомы шмат дзе, асабліва ў новых дзяржавах Афрыкі й Азіі, як гарачы прыхільнік іхнае незалежнасьці й свабоды. Ён загінуў у місіі ў імя шляхотных прынцыпаў хартыі АЗН. Над апушчанымі сьцягамі ў Нью-Ёрку — сталіцы АЗН, і ў шмат якіх сталіцах сьвету пачуцьцё, зь якім людзтва сустрэла сьмерць Гамаршэльда, найлепш можна было-б выказаць словамі прэм'ера Канады Дыфэнбэйкэра: «Сьмерць Гамаршэльда — гэта трагічны час у гісторыі чалавецтва, у мамэнт ягонага шуканьня міру».

**Я. З.**

# Самагубства Ўсевалада Краўчанкі

Сьмерць была «заўчасная» й «трагічная». І гэта ўсё. Чытачы савецкіх беларускіх газэтаў больш нічога й не даведаліся з нэкралёгу, апублікаванага восем дзён пасьля самагубства ў Францыі беларускага савецкага пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі. Нічога ня сказана: ні калі, ні дзе, ні зь якое прычыны. І гэтае маўчаньне гаворыць драматычней і красамоўней, чымся дэтальнае апісваньне хваробы й перадсьмяротных пакутаў. Пад шаблённай формулай «заўчасная трагічная сьмерць» хаваецца бо найстрашнейшая хвароба — хвароба душы й сумленьня; маральныя пакуты таго, хто верыў і зьняверыўся; бунт сілы волі супраць нясьцерпнае рэчаіснасьці й ненавіджанага палітычнага рэжыму.

У іншых абставінах чалавек даваў-бы ход сваёй апазыцыйнасьці можа ў форме літаратурных пэрсанажаў, ці крытычных артыкулаў, ці аратарскіх выступленьняў — так, як гэта шмат дзе ў сьвеце робіцца. Але там, у царстве сацрэалізму, дзе няма ні апазыцыйных партыяў ні забастовак, дзе ня можна ні жаліцца ні сумлявацца, дзе пануе афіцыйнае таталітарнае думаньне й зялезная партыйная дысцыпліна, — там можа быць толькі адна адзіная, найвышэйшая й найэфэктыўнейшая форма апазыцыі — самагубства. Гэта шлях, па якім пайшло шмат мужных людзей — выдатных дзеячоў беларускае літаратуры й дзяржаўнага будаўніцтва. Да імёнаў Усевалада Ігнатоўскага, Алеся Чарвякова, Міколы Галадзеда й Янкі Купалы далучылася цяпер імя Ўсевалада Краўчанкі.

У афіцыйным нэкралёгу па Ўсеваладу Краўчанку прамоўчаныя ня толькі абставіны ягонага самагубства ў францускім горадзе Кан, дзе пісьменьнік выкінуўся з вакна гатэлю, але прамоўчаныя таксама й некаторыя — з гледзішча афіцыйнага вельмі важныя — факты зь ягонае біяграфіі. У выпадку нармальнае сьмерці гэтыя факты напэўна былі-б выстаўленыя на першае месца.

Справа ў тым, што Ўсевалад Краўчанка належаў да партыі. У біяграфічным даведніку «Пісьменьнікі Савецкай Беларусі», выдадзеным Дзяржаўным выдавецтвам БССР у 1959 годзе, Краўчанкава біяграфія мае гэткую ўрачыстую канцоўку: «Усевалад Краўчанка — член КПСС, член праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР. Пісьменьнік узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» й мэдалямі». У нэкралёгу-ж, у якім пералічаюцца ўсе біяграфічныя факты, што й у даведніку, вышэй пададзеная канцоўка красамоўна прапушчаная. Партыя адраклася ад бунтарнага пісьменьніка, бо сваім самагубствам ён першы адрокся ад яе. Гэтае другое, партыйнае, адрачэньне відавочнае й з таго факту, што тады, калі ўправа пісьменьніцкага саюзу, калектыў рэдакцыі часапісу «Бярозка» й ЦК камсамолу Беларусі апублікавалі, «зь вялікім жалем», свае паведамленьні аб «заўчаснай трагічнай сьмерці», партыя не падала й знаку. Адрачыся ад пісьменьніка было адзінае, што бясьсільная ў гэтым

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Гістарычная аналёгія?

Шмат якія заходнія палітыкі й публіцыстыя сушаць галовы, намагаючыся разьвязаць нескладную загадку: ці Хрушчоў запраўды імкнецца да татальнай вайны ці толькі запалохвае? І робяць гэта яны з такой сур'ёзнасьцяй, як быццам ад разьвязаньня гэтай загадкі залежыць лёс сьвету.

Разьвязаньне загадак і крыжасловаў нікому не дало вялікіх прыбыткаў, хоць яно можа й добрае як гімнастыка мазгоў. Нармальна гэта робяць людзі падчас адпачынку й дзеля забавы. Цяпеража сусьветнае палажэньне зусім не адпаведнае для забавы ў разблытваньне загадак, тым больш, што гэта нічога не дае, бо калі ў Маскве скажуць «быть войне», дык яна будзе тады й у тым месцы, дзе захоча Масква. Нажаль, так ёсьць.

Лягічна думаючы, навошта маскоўскім верхаводам вайна, калі ўжо больш як 16 гадоў яны сыстэматычна павялічваюць тэрыторыю сваіх уплываў ува ўсім сьвеце шляхам дамаганьняў, правакацыяў, шантажаў і пагрозаў — і гэта ім удаецца.

З другога боку, трэба ўсьведаміць, што мінулі тыя рыцарскія й рамантычныя часы, калі праціўнік загадзя апавяшчаў аб пачатку вайны («іду на вы»). Пры роўных сілах на перавагу можа разьлічваць той, хто нападзе на праціўніка нечакана, падчас сну і аглушыць яго першым ударам. Гэты мэтад, пэўна-ж, ня рыцарскі, але ён прыняўся ў сьвеце. Дык і цяпер, калі ўжо месяцамі Хрушчоў пагрозьліва размахвае бомбамі й ракетамі, можна спадзявацца, што ён ня мае намеру іх кідаць, хіба што толькі прыпадкова адна высьлізьнецца з рукі...

Таму няма сумлеву, што цяперашняя акцыя Хрушчова — даўно выпрабаваны мэтад шантажу й запалохваньня, вайна нэрваў у падагрэтай тэмпэратуры. У гэтай вайне нэрваў перавага на баку Хрушчова, бо ў ягоных руках ініцыятыва й канцэнтрацыя сяродкаў, тады калі Захад усё-ж ня можа здабыцца на еднасьць у контракцыі. Цяперашнюю акцыю Масква разгарнула да надзвычай шырокіх маштабаў.

Устрыманьне дэмабілізацыі жаўнераў, якія адслужылі свае тэрміны ў савецкай арміі, манэўры савецкіх збройных сілаў, сэрыя выпрабавальных выбухаў і навет такі дробны факт, што пасьля некалькіх гадоў з нафталіны выцягнулі маршала Жукава ды загадалі яму паказвацца на міжнародных выстаўках — праўда, ня ў якасьці экспаната, але наведвальніка, — сьветчыць аб тым, што гэтая акцыя была добра перадуманая й вырэжысараваная. І ўсё гэта адбываецца пры акампаніямэньце траскатні й барабаншчыны казённай прапаганды. Гэта ўсё разам стварае ваенны псыхоз і гістэрыю. Праўда, гэты псыхоз дзеіць і на падсавецкае грамадзтва, але на гэта Хрушчову «напляваць з высокага дрэва», бо ён прадукуе тавар на экспарт у заходні сьвет, а пры гэтым мае нагоду яшчэ больш эксплёатаваць падсавецкае грамадзтва. Цяпер на кажным заводзе, у кажным калгасе склікаюцца мітынгі, дзе агітатары запалохваюць нясьведамых людзей жахамі вайны, да якой быццам-бы імкнуцца капіталістыя, заклікаюць працоўных браць вышэйшыя забавязаньні й нормы працы дзеля «ратаваньня міру»... І людзі бяруць...

Усё-ж найважнейшае тое, як да гэтай хрушчоўскай мітусьні падыходзяць тыя, на каго разьлічаная гэтая мітусьня — заходнія дзяржавы.

І вось тут напрошваецца дыгрэсыя й аналёгія з трыццатымі гадамі.

Калі ў 1933 годзе Гітлер прыйшоў да ўлады ў Нямеччыне й кажны на Захадзе й Усходзе, калі жадаў, мог прачытаць «Майн Кампф», здавалася-б, толькі наіўны, або вар'ят мог мець сумлевы адносна намераў былога маляра. Калі Гітлер, зрываючы вэрсальскія пагадненьні, пачаў рэмілітарызацыю Надрэйніі, зарэагаваў на гэта адзін толькі польскі ўрад, які зьвярнуўся да француского ўраду — бо яго толькі тычылася гітлераўская акцыя — з запытаньнем, ці Францыя будзе мабілізавацца, і з запэўненьнем, што польскі ўрад выканае ўсе свае забавязаньні, якія вынікалі з француска-польскага саюзу. На гэты дэмарш францускі ўрад адказаў, што ён ня мае намеру праводзіць мабілізацыі й рэагаваць на рэмілітарызацыю Надрэйніі. Рэшта заходніх дзяржаваў таксама рабіла міны, што ня бачыць гітлераўскай агрэсіі. У міжчасе Гітлер прапануе Палякам супольны паход на Савецкі Саюз. Польскі ўрад, адчуваючы небясьпеку як з боку Нямеччыны, так і з боку СССР, адкідае прапанову Гітлера ,але адначасова, ня маючы даверу да саюзьнікаў, ужо раней пачынае няўдалую падвойную гульню: падпісвае дзесяцігадовыя пакты неагрэсыі зь Нямеччынай і Савецкім Саюзам (пакты, якіх не датрымалі ані Гітлер, ані Сталін.

Заахвочаны першымі посьпехамі ў Надрэйніі, зьліквідаваўшы ўнутраную апазыцыю пры дапамозе акцыі г. зв. «доўгіх нажоў», Гітлер пачынае далейшыя агрэсыўныя акты, як «аншлюс» Аўстрыі, «вызваленьне» судэцкіх Немцаў і г. д. Тут г. зв. «дзяржаўныя мужы» замітусіліся, і Чэмбэрлен, схапіўшы пад паху свой парасон, паляцеў у Мюнхэн, каб даведацца, чаго хоча Гітлер ( а могжа прачытаць «Майн Кампф» і бяз лішніх коштаў ведаў-бы, у чым справа).

У Мюнхэне Гітлер з рукой на сэрцы запэўніў Чэмбэрлена, што ўсё all right, што ён, апрача Судэтаў, больш нічога ня хоча — і Чэмбэрлен трыюмфальна вярнуўся ў Лёндан. Дарэчы, і польскі ўрад пастанавіў скарыстаць з нагоды — ён таксама пачаў дамагацца ад загрожанай ужо Чэхаславаччыны «гістарычнай» польскай тэрыторыі ды маленькі скрылік ад Чэхаславаччыны адрэзаў...

Тое, што Гітлер забраў Надрэйнію, Аўстрыю, Чэхаславаччыну — ўсё гэта ўважалі драбніцай. Важнае тое, што Гітлер задаволены й нічога больш ня хоча... Неўзабаве Гітлер забраў і Клайпэду й зажадаў ад Польшчы Гданска й экстэрытарыяльнага калідору ўва Ўсходнюю Прусію праз гэтак званы Польскі калідор. У міжчасе-ж Мусаліні паняволіў Абісынію й Альбанію.

На ўсе гэтыя захопы Гітлера й Мусаліні заходнія дзяржавы рэагавалі мяккімі нотамі пратэсту, а наагул глядзелі праз пальцы ,як быццам-бы «і я — ня я, і хата ня мая». А гора-дыпляматы й публіцыстыя крычэлі: «Ня хочам паміраць за Судэты!», «Ня хочам паміраць за Кляйпэду!», «Ня хочам паміраць за Гданск!»...

Маладушнасьць ня выратавала заходніх гора-палітыкаў — урэшце давялося за нешта паміраць. Сьвет апынуўся ў жахлівым катаклізьме другой сусьветнай вайны, якой можна было ўнікнуць, калі-б адразу была ўстрыманая агрэсыўнасьць нацызму й фашызму.

Небясьпечную аналёгію да трыццатых гадоў мы бачым і пасьля вайны, толькі што на арэну, замест Гітлера й Мусаліні, выйшлі Сталін, Мао Дзе-Дун, а пазьней Хрушчоў. Розьніца й у тым, што ані Гітлер, ані Мусаліні не маглі пашыраць сфэры сваіх уплываў без вайны, у той час, калі Сталіну й Хрушчову гэта ўдавалася й удаецца. Таму вельмі сумлеўна, што Хрушчоў хоча вайны, як яе хацеў Гітлер, а ягоная акцыя разьлічаная больш на запалохваньне маладушных і мяккацелых.

Тут з сумам трэба сьцьвердзіць, што й гэта яму часткова ўдаецца. І сяньня, як у трыццатых гадох, ад некаторых можна пачуць падобныя выказваньні: «Ня хочам паміраць за Ляос!», «Ня хочам паміраць за Бэрлін!»... Найпрасьцейшы выхад — аддаць камуністым і Ляос, і Бэрлін: можа яны ўрэшце супакояцца й задаволяцца...

O, sancta simplicitas!

Ужо дзесяткі гадоў Масква шчыра прызнаецца, што ейная канчальная мэта — апанаваньне ўсяго сьвету, а шмат якія заходнія палітыкі з маньяцкай упорыстасьцяй ёй ня хочуць верыць...

Чалавек, які топіцца, хапаецца й за саломінку. Так і заходнія пацыфістыя хапаюцца за міражы, як, прыкладам, узьнікненьне нейкай «трэйцяй сілы».

Нядаўна з нагоды Бэлградзкай канфэрэнцыі г. зв. «нэўтральных» краінаў, на Захадзе пацяшаліся надзеяй, што паміж двума блёкамі ўзьнікне «трэйцяя сіла», якая здолее ўзьдзеіць на міжнародную палітыку. Вынікі канфэрэнцыі даказалі, якімі беспадстаўнымі й наіўнымі былі гэтыя спадзяваньні. Гэтак званая «трэйцяя сіла» ня можа быць ніякай рэальнай сілай, бо ў Белградзкай канфэрэнцыі бралі ўдзел краіны слабаразьвітыя, бедныя, у бальшыні выпадкаў палітычна нясьпелыя, якія патрабуюць вялікай дапамогі, ды й бяруць яе адусюль, адкуль можна ўзяць.

Такім чынам, заходнія пацыфістыя й нэўтралістыя мелі яшчэ адну нагоду пераканацца, што разьлічваць на «трэйцюю сілу» няма сэнсу й падставаў.

Цяжка прадбачыць, як скончыцца цяперашні крызіс. Усё-ж зарысоўваецца небясьпека, што Хрушчову зноў удасца дамагчыся нейкіх канцэсіяў. А гэта было-б яшчэ адным цьвіком у дамавіну вольнага сьвету...

пс

# Сусьветная прэса аб палажэньні ў АЗН

Замежныя газэты зьмяшчаюць першыя камэнтары на прапанову савецкага ўраду зрэфармаваць апарат Задзіночаных Нацыяў. Паводля савецкага пляну, становішча Генэральнага Сакратара павінна быць замененае «тройкай» генэральных сакратароў, якая складалася-б з аднаго прадстаўніка заходняга блёку, аднаго прадстаўніка камуністычнага блёку і аднаго прадстаўніка нэўтральных краінаў. Амэрыканская газэта «Нью Ёрк Таймс» піша: «Савецкі міністар замежных справаў Грамыка даў зразумець, што савецкі ўрад мае намер выкарыстаць сьмерць Гамаршэльда, каб неадкладна ўзнавіць змаганьне за свой плян устанаўленьня «тройкі». Гэта азначае, што на Генэральнай Асамблеі можа ўзьнікнуць адкрыты канфлікт. Гэты канфлікт ня толькі перашкодзіць абмеркаваньню шматлікіх справаў, якія стаяць на парадку дня Асамблеі, але і зробіць цяжэйшымі заплянаваныя перамовы паміж Грамыкам і Раскам у пытаньні аб Бэрліне.

Іншая вялікая амэрыканская газэта «Вашынгтон Пост» піша: «Савецкі ўрад мае намер сарваць працу Задзіночаных Нацыяў — вось сэнс заявы Грамыкі. Ніхто не пярэчыць ідэі, што штаб Задзіночаных Нацыяў можа складацца з прадстаўнікоў усіх краін-сяброў АЗН. Але, што тычыцца становішча Генэральнага Сакратара, дык справа выглядае зусім інакш. Намер савецкага ўраду падарваць працу Задзіночаных Нацыяў трэба разглядаць як яшчэ больш злавесную адзнаку, чымся нават выбухі атамных бомбаў».

Падкрэсьліваючы складанасьць праблемаў, перад якімі стаіць Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў, ангельская незалежная газэта «Таймс» піша: «Пэўныя зьмены ў структуры сакратарыяту патрэбныя, хоць-бы з прычыны таго, што склад Задзіночаных Нацыяў зьмяніўся. Сам Гамаршэльд ужо ўлічваў гэтую неабходнасьць пры падборы сваіх супрацоўнікаў. Трэба было таксама павялічыць колькасьць сяброў Рады Бясьпекі, бо колькасьць краінаў-удзельнікаў АЗН падвоілася. Адзінае, чаго нельга зьмяніць — гэта нэўтральнай ролі самога Генэральнага Сакратара. Дзеля таго, што савецкі ўрад можа накласьці вэта на кожную непажаданую для яго кандыдатуру — кандыдат на становішча сакратара зь ліку прадстаўнікоў нэўтральных краінаў зьяўляецца адзінай магчымасьцяй».

Француская незалежная газэта «Лё Монд» адзначае, што можна стварыць камісію з прадстаўнікоў асобных краінаў дзеля выпрацоўкі плянаў далейшай рэарганізацыі Генэральнага сакратарыяту. У сувязі з гэтым газэта прыгадвае аб прапанове індыйскага ўраду захаваць становішча Генэральнага Сакратара Задзіночаных Нацыяў, але абмежаваць да пэўнай ступені ягоныя паўнамоцтвы.

# Рэакцыя на бэрлінскі крызіс у Польшчы

У інтэрв'ю, якое Хрушчоў нядаўна даў Зульцбэргэру, карэспандэнту «Нью Ёрк Таймс», ён сказаў, што ўважае Ангельшчыну, Францыю й Заходнюю Нямеччыну сваеасаблівымі «заложнікамі» пры будучых перамовах аб Бэрліне. Хрушчоў цьвердзіў, што гэтыя краіны надзвычай уразьлівыя ў выпадку атамнай вайны, і што таму яны будуць больш сьхільныя, чымся Злучаныя Штаты, прыняць савецкія ўмовы ды зробяць адпаведны ціск на амэрыканскі ўрад. Ён даў зразумець, што на ягоную думку, эўрапэйскія краіны — гэта слабое месца Захаду ў абароне правоў саюзьнікаў у Бэрліне.

Камэнтуючы гэтыя выказваньні Хрушчова, заходнія палітычныя назіральнікі адзначаюць, што Хрушчову ня шкодзіла-б задумацца аб слабых месцах у сваім уласным лягеры. Сярод краінаў-сатэлітаў ува Ўсходняй Эўропе заўважныя адзнакі ня толькі непакою й страху перад пагрозай вайны, але таксама сумлевы ў мудрасьці цяперашняй палітыкі Хрушчова. Тут мы возьмем для прыкладу настроі ў Польшчы. Адзначым, што тыя самыя сымптомы й боязь заўважаюцца ў Чэхаславаччыне, Вугоршчыне і ў савецкай зоне Нямеччыны.

Гэтыя сымптомы можна разьдзяліць на дзьве катэгорыі. Папершае — боязь, што агрэсыўная палітыка Хрушчова выкліча збройны канфлікт. Гэты страх выяўляецца ў панічных закупах прадуктаў, у скупляньні золата й каштоўнасьцяў і ў распаўсюджваньні самых разнастайных чутак. Падругое — штораз больш адкрыта выказваюцца сумлевы ў мэтазгоднасьці палітыкі Савецкага Саюзу ў пытаньні аб Бэрліне ды гэтак званай «мірнай умовы зь Нямеччынай».

Разгледзім гэтыя сымптомы больш падрабязна. У Польшчы афіцыйна прызнаюць, што насельніцтва ў паніцы скупляе прадукты харчаваньня. Ёсьць падставы цьвердзіць, што гэтае-ж самае адбываецца ў іншых краінах Усходняй Эўропы. Наколькі паважная гэтая праблема, можна меркаваць хоцьбы па тым, што 10-га верасьня сам Гамулка прысьвяціў шмат месца ў сваёй прамове на Сьвяце Дажынак менавіта гэтай паніцы. Ён назваў такія закупы «праявай антысацыяльных настрояў з боку вялікай часткі насельніцтва». Гамулка прызнаў таксама, што гэтая паніка парушыла нармальную працу сыстэмы разьмеркаваньня й выклікала, як ён сказаў, «часовую нястачу» такіх асноўных прадуктаў харчаваньня, як цукар, соль, мука й тлушчы.

За некалькі дзён да выступленьня Гамулкі польскія газэты зьвярнуліся да насельніцтва з заклікам спыніць гэтыя закупы, выкліканыя панікай. Але заклік гэты ня даў вялікіх вынікаў. Мяркуючы па паведамленьнях замежных карэспандэнтаў у Варшаве, прамова Гамулкі

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Сёе-тое

«Звязда» за 17-га жнівеня ў артыкуле «Гандлёвыя сюрпрызы» малюе цікавы вобраз кухняў і рэстаранаў у Менску. Вось пабудавалі будынак, дзе жыве шмат людзей, сямейных і адзінотных, і ўладзілі гэтак званую дамовую кухню, дзе можна прыйсьці, купіць абед і занесьці дамоў ды там яго спажыць. І аддаем слова «Звяздзе» (цытуем, захоўваючы «асаблівасьці» мовы й правапісу «Звязды»):

«Але першыя месяцы паказалі, што дамовая кухня не апраўдвае сябе: абедаў на дом бралі мала. Большасьць наведвальнікаў абедала прама тут на трох століках-стаячках. Тады ў трэсце сталовых вырашылі зрабіць пры дамовай кухні сталовую, дадалі яшчэ шэсьць такіх столікаў, увесь неабходны посуд. І вось што з гэтага атрымалася.

У чарзе каля касы стаіць чалавек 20-30. Людзі абступілі цесна столікі-стаякі. Каля кожнага з іх стаіць па пяць чалавек. Але гэта ўсё роўна не выратоўвае становішча. Астатнім няма дзе прымасціцца. Даводзіцца з талеркамі ў руках хадзіць з памешканьня ў памешканьне у пошуках свабоднага месца. А на сталах растуць груды бруднай пасуды. Нарэшце яе ўбіраюць. Але як? Убірае дзяўчына, якая разлівала кампот. І нясе яна гэты посуд у пасудамойку каля катла з кампотам, бо спецыяльнага акна для прыёмкі бруднай пасуды тут няма. Хіба гэта гігіенічна? Безумоўна, не. Але што гэта ў параўнанні з кухонным чадам, які густа, да сінявы, запоўніў абедзве залы. Без прывычкі тут варта пастаяць толькі адных пяць мінут, каб кругам пайшла галава. Не, не пойдзе тут у смак самы добра прыгатаваны абед. — Ужо на што мы прывыклі да гэтага дыму, і то галава за дзень забаліць, — гаворыць загадчыца Юзэфа Венядзіктаўна Гарошка».

І далей чытаем, што няма ў кухнях вэнтылятараў, сетак на вокнах, дый памешканьні не прыстасаваныя да сталовых. І адпаведныя таварышы дырэктары зь верху, аж да дырэктара трэсту сталовых аб усіх недахопах добра ведаюць, але нічога не зрабілі дзеля паляпшэньня.

Але яшчэ аддамо слова «Звяздзе»:

«Грамадскае харчаванне ў Мінску патрабуе рашучага паляпшэньня. Абыдзіце ў 9 гадзін вечара ўвесь Мінск: ні адна сталовая, ні адзін аўтамат у гэты час ужо не працуюць. А хіба гэта нармальна?»

І далей: «Здаецца надыйшоў час, каб аўтаматы поўнасцю перарабіць. Каму гэта ў свой час прыйшло ў галаву, што стоячы абедаць лепш, чым седзячы? Можа хутчэй можна пад'есці? Не. Дык навошта тады гэтыя столікі-стаянкі? Глядзіш іншы раз як ядуць за імі: у аднаго толькі макушка раўняецца са столікам, а другому даводзіцца згінацца, бо вельмі ўжо вырас. Стоміцца чалавек на рабоце, тут бы яму сесці ды паабедаць, дык не ж, даводзіцца стаяць. А зойдзе жанчына з дзецьмі, што ёй рабіць? Аб гэтым відаць не думалі «пад капірку» адкрываючы закусачныя-аўтаматы».

Гэтыя вытрымкі з даўгога артыкулу добра паказваюць які парадак пануе там, дзе аб усіх так бесьперапынна дбае і аж да бяссоньніцы клапоціцца «родная партыя». У вольным сьвеце такія дамавыя (лепш адпавядала-б «дымавыя») кухні ці закусачныя-аўтаматы з такім абслугоўваньнем і выгадамі ня вытрымалі-б і тыдня. Бо тут паводля агульнапрынятага гандлёвага правіла, кліент заўсёды мае рацыю. На другім-жа баку «родная партыя» і толькі яна адна заўсёды мае рацыю. Дык ці-ж можа быць інакш?

☆

У «Полымі» за сёлетні ліпень Міхась Машара апісвае свае «Сустрэчы з Янкам Купалам». Пачынае ад сустрэчы на г. зв. «народным сабраньні» ў Беластоку, дзе пазнаёміўся з Купалам.

Паводля Машары, перад Калядмі 1941-га году Купала з жонкай Уладыславай жыў кароткі час у вёсцы Печышчах каля Казані. Пасьля яму ахвяравалі памешканьне ў Казані, куды «згадзіўся» пераехаць, пакінуўшы жонку самую ў Печышчах. Жыў разам з аўтарам (Машарам) і Кузьмой Чорным у гасьцініцы «Татарстан». Звычайна быў невясёлы й маўклівы.

«Да нас у Казань з Печышчаў часта прыязджала Уладзіслава Францаўна і гасьціла па два-тры дні. Цётка Ўладзя, як мы ўсе называлі яе, прыносіла з сабой многа бадзёрасці, весялосці і разнастайнасці ў наша жыццё. Папраўляўся настрой і ў Купалы, ён весялеў, рабіўся гаваркі, пачынаў жартаваць.

«За час свайго прабывання ў гасцініцы «Татарстан» Купала напісаў адзін з перадапошніх вершаў — «Лютуе Гітлер ашалелы».

«18-га чэрвеня 1942-га года Купала прыехаў у Маскву. Я сустрэўся з Іванам Дамінікавічам у гэты дзень за бяседным сталом, які быў наладжаны ў гонар яго прыезду беларускімі пісьменьнікамі ў гасцініцы «Масква». Было шумна і весела. Іван Дамінікавіч распытаваў пра навіны і весткі з радзімы. Скардзіўся на боль у левай руцэ. Гаварыў, што збіраецца сур'ёзна падлячыцца.

«Я ў гэты час працаваў ва ўсесаюзным радыёкамітэце, у рэдакцыі беларускіх перадач. Жыў я ў раёне Крымскага моста. Работы было многа. У гасцініцы «Масква» бываў не часта, таму нейкі час не бачыўся з Янкам Купалам. Ведаў, што ён заўсёды акружаны нашымі пісменнікамі і літаратарамі, надта заняты наведвальнікамі. Аднойчы я сустрэў Анатоля Астрэйку. Ён сказаў, што Янка Купала прасіў перадаць, каб я ў бліжэйшы час зайшоў да яго. На другі дзень я прыйшоў да Івана Дамінікавіча. Сустрэў ён мяне вельмі сардэчна і цёпла.

«Развітваючыся, Янка Купала прасіў заходзіць да яго часцей. Я абяцаў...

«28-га чэрвеня 1942 года не стала нашага народнага паэта, вялікага сына беларускага народа. Смерць выхапіла з беларускай літаратуры аднаго з яе стваральнікаў».

Характэрна, што ў іншым месцы успамінаў Машара прысьвячае месца Купалаўскаму гумару й гадзіньнікавай стрэлцы, якая была прадметам добрага жарту, але стаецца вельмі скупым на словы пры канцы, прыгадваючы апошнія сустрэчы. І намёк на боль у левай руцэ паэты выдаецца непаважным. Выглядае таксама, што Купала і ў гасьцініцы «Масква» жыў адзін, пакінуўшы жонку дзесь ззаду.

Бальшавікі, відаць, маюць, прычыны затойваць акалічнасьці сьмерці Купалы.

**Міхась Козыр**

### САМАГУБСТВА ЎСЕВАЛАДА КРАЎЧАНКІ

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

выпадку дыктатура магла зрабіць, каб хоць гэткім спосабам, наўздагон, «пакараць» яго за бунт. І гэтае адрачэньне й адлучэньне, гэтая свайго роду маўклівая партыйная анатэма канчальна й незапярэчна пацьвярджае Краўчанкава самагубства, як палітычны пратэст у вабарону свабоды беларускае літаратуры й беларускага народу.

Цяпер, па апублікаваньні партыйнай прэсай нэкралёгу, адпадаюць усякія сумлевы што да самога самагубства й ягонага значаньня ў аспэкце беларускае нацыянальна-вызвольнае справы.

**Аркадзь Будзіч**

# Новая фаза халоднай вайны

**Ад Рэд.** Ніжэй зьмяшчаем прысланы нам артыкул грузінскага журналістага й публіцыстага В. Нануашвілі, аўтара кнігі «Сіла і слабасьць СССР» («The Strength and Weakness of the USSR»).

☆

На працягу некалькіх месяцаў халодная вайна значна ажывілася. Крэмль, які вядзе гэтую вайну й ня выпушчае ініцыятывы ў кіраваньні ёй навет на хвіліну, надае здарэньням прысьпешаны тэмп; ён давёў напружэньне нэрваў да найвышэйшага пункту.

Фаза найбольшага завайстрэньня халоднай вайны пачалася ад дэманстрацыйнага сарваньня Крамлём канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні. Усьлед за гэтым крокам пачалася спэцыяльная ігра Масквы для магчыма найвышэйшага напружаньня змаганьня ў Конга й завайстрэньня дачыненьняў на форуме Задзіночаных Нацыяў. Яшчэ ня сьціхла рэха гэтага крызісу, як быў пушчаны ў рух наступны фактар халоднай вайны — Ляос і, у мамэнт поўнага разьвіцьця здарэньняў у Ляосе, у вельмі нэрвовым тоне загрымеў Бэрлін. Адначасова з штучным распальваньнем нэўральгічных пунктаў сьвету, разьвіваецца сыстэматычная камуністычная афэнзыва на Цэнтральную й Паўдзённую Амэрыку.

На агульным фоне гэтых хуткіх чарговых udaраў Масквы, прайшоў амаль незаўважаным кароткі, але вельмі войстры, канфлікт паміж Іракам і Кувэйтам. Крэмль і тут вельмі хутка ўставіў свой кій у сьпіцы ў выглядзе 95-га вэта ў Задзіночаных Нацыях — каб унемагчыміць хуткую ліквідацыю гэтага канфлікту.

Гэты крок Крамля мае сваё спэцыфічнае адценьне. Кувэйт ляжыць у межах тэй паласы, бескантрольнага панаваньня над якой дамагаўся Молатаў ад Гітлера падчас апошняй канфэрэнцыі зь ім у 1940 годзе. Гэтая паласа, роўная паводля шырыні цэламу Каўказу, ідзе па простай лініі на поўдзень да Пэрсыдзкай затокі. Кувэйт ляжыць на найкарацейшай лініі ад тэрыторыі Расеі да Індыйскага акіяну. Ён зьяўляецца мрояй Расеі ад некалькіх стагодзьдзяў.

Усе аўтарытэтныя знаўцы расейскіх і савецкіх праблемаў цяпер заняты студыяваньнем дробязяў і аналізам палажэньня ў паасобных нэўральгічных пунктах, аднак ніводзін з гэтых пунктаў — навет і Бэрлін — не становіць сабой асноўнай мэты халоднай вайны і не павінен закрываць агульнага вобразу цэласьці халоднай вайны пад ціскам гэтых лякальных здарэньняў.

Прыгаданыя здарэньні й прысьпешаныя тэмпы іхнага разьвіцьця выразна сьветчаць, што халодная вайна перайшла ў новую фазу, ды што ейны далейшы працяг будзе ў пэўнай ступені розьніцца ад папярэдніх этапаў.

Халодная вайна, як і кажная форма змаганьня, мае свае выразныя прынцыпы вядзеньня й асноўныя этапы разьвіцьця; яны санкцыянаваныя чатырохвяковай практыкай і традыцыяй Крамля. Паводля гэтых прынцыпаў, трэба ўважаць натуральнай і лягічнай зьявай, што халодная вайна мусіць пераходзіць з аднэй стадыі ў другую, як да чарговай ступені свайго разьвіцьця. У гэтым ня можа быць ніякай неспадзеўкі й нічога дзіўнага.

Аднак, у сучасным мамэнце халоднай вайны гэты пераход да новай фазы прыйшоў раптоўна, без давядзеньня да лягічнага канца папярэдняй фазы й без выкарыстаньня тых магчымасьцяў, якія тая фаза давала Крамлю. Інакш кажучы, папярэдняя фаза як лягічны этап вайны. была перапыненая, і Крэмль, без дакладнай падрыхтоўкі, пачынае новую акцыю. У працэсе кожнага спосабу змаганьня падобныя факты ніколі не здараюцца з уласнай волі актыўнага боку, бяз нэрваў і бяз рызыкі, ступень якое цяжка прадбачыць.

У гэтых абставінах асноўнай праблемай для вольнага сьвету зьяўляецца высьвятленьне пытаньня: што накінула Крамлю гэты непадрыхтаваны скок, што вырвала ініцыятыву зь ягоных рук першы раз у гісторыі сучаснай халоднай вайны ды што пахіснула ягонае панаваньне над нэрвамі.

Каб ахапіць у цэласьці маштабы гэтай зьмены ў ходзе халоднай вайны й дакладна ацаніць ейны засяг, трэба зьвярнуць увагу на некалькі элемэнтаў з папярэдняй фазы ды цяперашняга часу, а менавіта:

— Якое было палітычнае палажэньне праціўных бакоў (чырвонага лягеру й вольнага сьвету) на працягу мінулай фазы халоднай вайны, і якім яно ёсьць у сучасны мамэнт?

— Якія былі чарговыя палітычныя мэты агрэсыўнага боку (Крамля)?

— Як магло выглядаць палажэньне ў вацэне агрэсыўнага боку?

Папярэдняя фаза халоднай вайны, якую Крэмль перапыніў некалькі месяцаў таму, працягвалася ад дня заканчэньня ваенных дзеяньняў другой сусьветнай вайны (8. V. 1945 г.). Асноўнай рысай гэтай фазы было камплетнае бязладзьдзе кантынэнтальнай часткі Эўропы — бязладзьдзе эканамічнае, вайсковае й палітычнае. Ніводная зь дзяржаваў вольнай часткі эўрапэйскага кантынэнту ня была здольная да абароны ад атакі Расеі. Найбольшая эўрапэйская магутнасьць паза кантынэнтам — Ангельшчына — перажывала пэрыяд грунтоўнай зьмены дзяржаўнай структуры й таксама ня была здольная да абароны заходняй часткі эўрапэйскага кантынэнту — у выпадку, калі-б гэтая абарона ажыцьцяўлялася вылучна ўласнымі сіламі Эўропы.

У тых абставінах адзіным вайсковым дзейнікам, які не дазваляў Расеі пайсьці на рызыку нападу й апанаваньня безабароннай заходняй Эўропы быў часовы манаполь атамнай бомбы Задзіночаных Штатаў і Ангельшчыны ды перавага авіяцыі.

Як гэтая сытуацыя выглядала ў вачох Крамля? Расея на працягу ўсяе свае гісторыі ніколі не давярала ўласным збройным сілам. Яна заўсёды намагалася і ўмела дасягаць сваіх мэтаў пераважна палітычнай акцыяй. Гэтая акцыя сяньня называецца халоднай вайной. Палажэньне, у якім апынуўся сьвет пасьля другой сусьветнай вайны, а асабліва Заходняя Эўропа, давала Расеі проста ідэальныя ўмовы дзеля вядзеньня халоднай вайны, дзеля мірнага падбіцьця сьвету. Ёй у ніякім выпадку не аплачвалася выстаўляць сябе на дзеяньне атамнай бомбы й магутнейшых паветраных сілаў Задзіночаных Штатаў і Англіі.

Абставіны дазвалялі вырашыць лёс Заходняй Эўропы, а разам зь ёй і цэлай Усходняй паўкулі, пасярэдняй палітычнай акцыяй, праводжанай на абшары Блізкага Ўсходу й Паўночнай Афрыкі. Самой Расеі зусім ня трэба было праводзіць ніякай ваеннай акцыі, хапала толькі падтрымоўваць маральна й матарыяльна вызвольны рух народаў, якія змагаліся на гэтых абшарах.

Да прыгаданых элемэнтаў далучаліся яшчэ дзьве зьявы, якія рабілі вялікі эмацыянальны ўплыў на сучасных кіраўнікоў палітыкі Крамля. Яшчэ ў пачатку рэвалюцыі, перад захопам улады камуністычнай партыяй і падчас грамадзянскай вайны, Ленін і Сталін у сваіх працах і выказваньнях акрэсьлілі вельмі дакладна, як яны ўяўляюць сабе палітычнае зьнішчэньне вялікіх заходніх дзяржаваў.

У суме, цэласьць праблемы яны зводзілі да простага й канкрэтнага пляну дзеяньня: вызвольны рух і самавызначэньне народаў зьяўляецца сьмяротнай небясьпекай для расейскай імпэрыі, — цьвердзілі яны. — Дзеля абясшкоджаньня гэтага руху, народам, паняволеным Расеяй, трэба прызнаць тэарэтычнае права на аддзяленьне ад Расеі. Аднак кажны індывідуальны выпадак разьвязаньня гэтага пытаньня трэба аддаць у рукі расейскай камуністычнай партыі. Самі-ж паняволеныя народы трэба ўцягнуць у расейскае клясавае змаганьне, каб такім чынам выбіць нацыянальны грунт спад іхнага баёвага дынамізму.

Але якраз адваротны спосаб дзеяньня рэкамэндавалі яны (Ленін і Сталін) у дачыненьні да каляніяльных тэрыторыяў, якія належалі заходнім дзяржавам. «Вызваленьне каляніяльных народаў мусіць быць нашым баёвым клічам», — пісаў Сталін яшчэ перад тым, пакуль стаўся першым камісарам нацыянальных справаў ува ўрадзе Леніна.

Плян гэты быў дакладна й адкрыта выкрышталізаваны яшчэ ў 1917-1919 гадох. Аб гэтым пісалі й гаварылі адкрыта, і бальшавікі не рабілі з гэтага ніякай тайніцы. Адразу пасьля другой сусьветнай вайны гэты плян яны пачалі ажыцьцяўляць. Палітычныя падзеі на сусьветнай арэне пакаціліся па гэтай лініі й вельмі доўга разьвіваліся дакладна ў суадпаведнасьці з гэтым плянам.

Другім зьявішчам, якое яшчэ больш надавала пэўнасьці Крамлю, быў балючы факт, што ад 1917 году да сяньняшняга дня, ня гледзячы на сваю ўсебаковую перавагу, Захад ня здолеў выявіць запраўднага ідэйнага або палітычнага супраціву. За гэты пэрыяд уся акцыя Захаду супраць СССР становіць сабой няспынную сэрыю памылак. Найбольшыя посьпехі, якія сяньня Крэмль залічае на сваё ўласнае конта, былі здабытыя для яго самым Захадам цаной цяжкога палітычнага й ваеннага высілку — і перададзеныя Крамлю. Да гэтага часу палітычная акцыя Захаду яшчэ ня выяўляе сымптомаў практычнага пазнаньня асноваў стратэгіі халоднай вайны, праводжанай Масквой, і ня выявіла ніводнага эпізоду супраціву на аднолькавым узроўні і ў аднолькавых маштабах з праціўнікам.

Да гэтага часу Крэмль, вядучы халодную вайну, якая ахоплівае цэлую зямную кулю, сустракаў толькі другарадны супраціў мясцовага характару, які ў нічым ня зьвязваў ягонай асноўнай акцыі; Крэмль і да сяньняшняга дня можа свабодна выбіраць месца й мамэнт чарговага ўдару ў кажнай частцы зямной кулі.

У гэтых абставінах кажная няўдача Крамля зьяўлялася толькі нязначным мясцовым эпізодам, які ня мог рабіць ніякага адмоўнага ўплыву на ход цэласьці халоднай вайны. Час бязумоўна працаваў на карысьць СССР, і на фоне такога разьвіцьця падзеяў Крэмль меў права думаць:

— Апанаваньне й ліквідацыя Заходняй Эўропы зьяўляецца толькі пытаньнем часу.

— Супраціву ў паважным памеры спадзявацца няма падставаў і лёс Эўропы й цэлай Усходняй паўкулі будзе разьвязаны ў Афрыцы й джунглях Азіі.

— Пытаньне Заходняй паўкулі становіць сабой толькі праблему ўстанаўленьня чарговасьці апанаваньня паасобных дзяржаваў гэтай часткі зямной кулі.

Бязумоўна, Крэмль меў падставы думаць, што найдалейшыя пляны й жаданьні Леніна зрэалізуюцца цалкам яшчэ за жыцьця пакаленьня ягоных беспасярэдніх вучняў і будуць праведзеныя ў жыцьцё яшчэ падчас панаваньня толькі трэйцяга з чаргі дыктатара Крамля. Гэтае перакананьне Хрушчоў выразна сфармуляваў у сваім спэцыфічным стылі: «Мы вас пахаваем».

У кульмінацыйным пэрыядзе ўдачаў Крамля сьвет пачаў адчуваць пэўныя адзнакі зьменаў, якія адбываюцца на тэрыторыі Заходняй Эўропы. Зьмены гэтыя выявіліся поўнай неспадзеўкай як для Масквы, так і для вольнага сьвету.

☆

Пад ціскам небясьпекі агульнага зьнішчэньня, дзяржавы Заходняй Эўро-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Рэакцыя на бэрлінскі крызіс...

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

таксама не зьмяніла палажэньня. Панічныя закупы працягваюцца, і давялося ўвесьці пэўныя абмежаваньні ў продажы розных прадуктаў харчаваньня, а перад магазынамі стаяць доўгія чэргі.

Адначасова, у Польшчы назіраецца вялікі адплыў ашчаднасьцяў. У выніку масавага забіраньня ашчаднасьцяў, агульная сума ўкладаў за некалькі тыдняў зьменшылася на 15 працэнтаў. Укладчыкі мяняюць свае ашчаднасьці на золата й каштоўнасьці, у сувязі з чым заўважаецца павышаны попыт на заламыя даляры.

Але яшчэ важнейшымі, чымся гэтыя вонкавыя адзнакі страху перад вайной, зьяўляюцца адкрыта выказваныя сумлевы ў разумнасьці афіцыйнай лініі ў справе бэрлінскай праблемы і ў пытаньні аб гэтак званай «нямецкай мірнай умове». Дастаткова больш-менш уважна перагледзець польскія газэты й паслухаць Варшаўскае радыё, каб уявіць сабе, якая цяпер думка польскай грамадзкасьці. Падамо некалькі прыкладаў.

У верасеньскім нумары тэарэтычнага часапісу ЦК польскай кампартыі «Новэ дрогі» мы знаходзім даўгі артыкул аб нямецкай праблеме. Аўтар гэтага артыкулу адкрыта прызнаецца, што ў Польшчы шмат хто выказвае сумлевы аб мэтазгоднасьці аднабаковай умовы зь Нямеччынай. Ён піша: «Часта даводзіцца чуць пытаньне: якая будзе вартасьць такой мірнай умовы, калі яна будзе падпісаная толькі з аднэй часткай Нямеччыны, і толькі некаторымі сябрамі тэй кааліцыі краінаў, якія вялі вайну супраць Нямеччыны?»

Гэтыя сумлевы вельмі пашыраныя сярод польскай грамадзкасьці. Мы сустракаем амаль такія-ж пытаньні ў паведамленьнях аб выказваньнях на агульных сходах — паведамленьнях, зьмешчаных у дзьвюх пэрыфэрыйных газэтах — «Газэта Познаньска» і «Штандар люду» (выходзіць у Кельцах).

Перагляд польскіх газэтаў паказвае таксама, што польская грамадзкасьць добра ўсьведамляе сабе, што асноўнай прычынай, якая выклікала закрыцьцё граніцаў паміж сэктарамі Бэрліну, было жаданьне спыніць паток уцекачоў на Захад. Дарэчы, Палякі ніколі ня верылі ў папулярнасьць рэжыму Ульбрыхта.

Яшчэ больш характэрныя апошнія перадачы Варшаўскага радыя, у якіх даваліся адказы на розныя пытаньні адносна бэрлінскага канфлікту. У гэтых перадачах падаваліся вытрымкі зь лістоў радыяслухачоў. У некаторых лістох гаварылася, што ўва ўзьнікненьні бэрлінскага крызісу нельга абвінавачваць заходнія дзяржавы. Мала таго, гэтыя радыяслухачы заяўлялі, што ўся нямецкая праблема завайстрылася з прычыны агрэсыўнай палітыкі камуністычных краінаў.

Аўтары іншых лістоў, як паведамляла Варшаўскае радыё, уважалі, што бэрлінскі канфлікт — гэта адлюстраваньне палітыкі сілы вялікіх дзяржаваў. «Інтарэсы Польшчы вымагаюць ад ейнага ўраду, каб ён заняў у бэрлінскім крызісе нэўтральную пазыцыю. Заставаймася збоку ад гэтага крызісу, які фактычна зьяўляецца канфліктам паміж вялікімі дзяржавамі», — заяўляў аўтар аднаго з такіх лістоў.

Усё гэта паказвае, што Хрушчову менш за ўсё трэба было-б гаварыць аб слабых месцах заходніх саюзьнікаў — менш за ўсё гаварыць таму, што, як кажуць, у хаце павешанага не гавораць аб вяроўцы.

**Р. С.**

Ант. Адамовіч

# Творы Алеся Гаруна

**(Працяг)**

У цэнтры ўвагі крытыка стае Гаруноў верш «Паэту» з Матчынага Дару», які ён паддае такому глыбокаму, грунтоўнаму й разам з тым замілаванаму аналізу, якому ня быў ніколі паддадзены які-колечы іншы твор паэты гэтага. Зацытаваўшы верш у цэласьці, Бабарэка піша:

> Не магу ўстрымацца, каб ня выказаць тут-жа свайго дачыненьня да гэтага вершу, як да выяўленьня «чыстага мастацтва», у сэньсе мастацтва, не заплямленага аніякаю пасрэднасьцю, аніякаю робленнасьцю ці то надумнасьцю або штучнасьцю. Такога мастацтва ня могуць замяніць цэлыя вазы вершаў некаторых сучасных паэтаў. І сапраўды, якая глыбіня й моц перажываньня, якая яснасьць і суладжаная цэльнасьць і закончанасьць вобразу, яго жыцьцяздольнасьці, што кіпіць у гэтым нярухомым, але празрыстым вакне мастацкай творчасьці! Але як-бы мне не хацелася выказаць сваё адчуваньне, мы яго спыняем і даём магчымасьць нашым чытачом самім перажыць усю глыбіню гэтага вершу, пабыўшы некаторы час, так сказаць, гаруністам. Цяпер-жа выкажам свае думкі пра гэты, сапраўды, пэрл творчасьці.
>
> У гэтым вершы Алесь Гарун гаворыць як-бы ад імя чытача, і самы верш прадстаўляе сабою як-бы выхапленае з размовы паэты з чытачом слова апошняга. Такая вось форма дадзенага вершу. Гэта не адозва спрактыкаванага паэта-мастака да маладога пакаленьня. Гэта проста непасрэднае выражэньне накіпеўшага й набалеўшага ў душы чытача, проста чалавека, не спакушанага яшчэ «культураю», чалавека, што мае здаровы густ да прыгожага, вялічавага і наагул да ўсяго таго, што называецца мастацкім. Тым большая яшчэ каштоўнасьць твору, што паэта ня мудрыў, а здолеў прасякнуцца ў душу чытача і выразіць усе яго адчуваньні, пачуцьці й патрэбы ў галіне мастацкага. Гэта здольнасьць, якую Кузьма Чорны выражае такімі словамі, як «няпрыкметна душою ўвайсьці ўва ўсе таямніцы, што ў жывых істотах захованы, увайсьці ласкава й ціха, з чыстымі думкамі й адчуваньнямі», а потым «пайсьці па зямлі, ахваціць яе сабою й сказаць кажнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць у цябе тое, чаго ты й сам можа не адчуваў».
>
> Гэта здольнасьць увайсьці ласкава й ціха ў душу чалавека і вынесьці адтуль на сьвет, паказаць людзям усё захованае ў яе глыбінях, паказаць яе багацьце або беднасьць, яе вялікасьць або мізэрнасьць, яе паўнату й цэльнасьць, шукаць якую запаведаў яшчэ М. Багдановіч, або пустэчу — і ёсьць умова глыбокай мастацкай творчасьці, а таксама і аснова для вызначэньня ў паэты таго, што мы называем глыбокім талентам, або паэтам знаўцам чалавечай душы.
>
> Нічога няма цяжэй як перавыхаваць сябе, бо самай галоўнай і асноўнай умоваю перавыхаваньня ёсьць пазнаньне сябе самога. Пазнаць-жа сябе — гэта нялёгкая справа. Ці перажывалі вы калі стан свядомасьці, калі, чытаючы той ці іншы верш або апавяданьне ці аповесьць, вы пачыналі адчуваць, што вось настрой, які выражаны вершам ці наагул творам, і самі вы некалі перажывалі, што той ці іншы гэрой падобны да вас саміх, быццам ён сьпісаны з вас; угледзеўшы-ж гэта, ці не ахапляў вас асаблівы настрой, і вы пачыналі думаць: «дык і я-ж такі», або «вось той і той якраз гэтакі», а адгэтуль ужо, часта мо й зусім бесьсьвядома, у глыбі сваей істоты, вы разважалі ня быць такім, або быць падобным да такога. Я не памылюся, калі скажу, што не адзін з нас перажываў такія станы сьвядомасьці, чытаючы мастацкія творы таленавітых пісьменьнікаў або паэтаў.
>
> І вось, калі вы перажывалі гэта і зараз яго возьмеце пад увагу, дык перад вамі выявіцца ўся веліч, глыбіня й значэньне вышэй азначанай здольнасьці пісьменьніка прасякаць у чужыя постаці, здольнасьці пераўвасабляцца, і ацэніце правільна яе, як аснову для вызначэньня ў пісьменьніка наяўнасьці таленту, які характарызуецца вось гэтаю здольнасьцю. Вы зразумееце, якую вялікую справу робіць пісьменьнік або паэта, які творыць мастацкія рэчы, узяўшы за матарыял свае творчасьці жыцьцё, як яно ёсьць, калі пясьняр сьпявае «аб тым, што ёсьць цяпер і што даўней было, і што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры, і што ў мільёнах душ разоры правяло».[45]

І крытык зварачаецца ўзноў да свае ўлюбёнае супаставы Гаруна ў пары з Багдановічам, у дадзеным выпадку — да супаставы Гаруна, як творцы вершу «Паэту», з Багдановічам, як аўтарам вершу «Маладому песьняру», перад тым разгледжанага крытыкам у дадзеным артыкуле. Пра Гаруна супраць Багдановіча ён кажа:

> Такі паэта ня скажа так агульна, што «ў грудзёх у людзей сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня», бо ўгледзіць «духа путы» і разоры. Яго творчасьць не «ўдарацьме», як першага, а будзе рваць гэтыя путы, будзе нішчыць разоры, якія дзеляць усё чыста на два сьветы ці, як кажа Ул. Дубоўка, на «нельга» і ««льга».
>
> Вядома, існасьць тут адна ў вабодвых відах творчасьці, толькі яна ў полі двух пунктаў гледжаньня. Першы зь іх (М. Багдановіча) больш суб'ектыўны, уласны, дзякуючы чаму ўся кіпучасьць пачуцьцяў праходзіць праз лёд розуму, і таму гэтыя пачуцьці набываюць выгляд сьціснутага, сталёвага ядра, якое тоіць у сабе ў патэнцыі нявычэрпную моц і магчымасьці, праўда, ня толькі свайго «я», але й пэўнага калектыву. Другі (А. Гаруна) — больш аб'ектыўны, «альтруістычны», дзякуючы чаму кіпучасьць пачуцьцяў выліваецца непасрэдна, растапляючы ў сабе, таксама непасрэдна, пачуцьці й адчуваньні «я» калектыўнага.
>
> Тэрміны «суб'ектыўны» й «аб'ектыўны» ўжыты тут умоўна і імі толькі характарызуецца форма выяўленьня й выражэньня псыхікі чалавека, або розныя пункты гледжаньня на адну і тую-ж існасьць. І сапраўды, і першы і другі вершы зьяўляюцца выражэньнем суб'ектыўных станаў сьвядомасьці й адначасна-ж цераз гэта суб'ектыўнае выяўленьнем і аб'ектыўнага. У гэтым іх тожсамасьць,

# Новая фаза халоднай вайны

(Заканчэньнен з 3-яй бач.)

пы зрабілі першыя крокі да цеснага эканамічнага супрацоўніцтва. Ужо сам пачатак эканамічнага супрацоўніцтва падыктаваў прыхільнікам гэтай ідэі няўхільныя крокі палітычнага зьбліжэньня. Гэтае частковае супрацоўніцтва ў кірунку задзіночаньня палітычнага фронту ўжо неўзабаве пачало даваць выдатны палітычны эфэкт у сусьветным маштабе. Заходняя Эўропа пачала раптоўна выздараўляць з пасьляваеннага бязладзьдзя, набіраць эканамічнай сілы й палітычнага значэньня. Ужо сяньня супольны фронт часткова задзіночанай Заходняй Эўропы ў сьвятле статыстычных дадзеных выглядае вельмі імпазантна. Шэсьць дзяржаваў гэтак званага «Эўрапэйскага Агульнага рынку» ужо самі перавышаюць Савецкі Саюз паводля колькасьці насельніцтва — і ўва ўсіх галінах прадукцыі й гандлю. Дзяржавы, якія знаходзяцца паза гэтай групай, выказваюць выразную тэндэнцыю ў кірунку далучэньня да яе.

Калі выздараўленьне Заходняй Эўропы будзе разьвівацца дасюлешнімі тэмпамі (а ўсё гаворыць за тое, што разьвіцьцё йдзе якраз у гэтым кірунку), дык на працягу кароткага часу Эўропа можа аднавіць поўную здольнасьць уласнай абароны й заняць вырашальную пазыцыю ў палітычнай сытуацыі сьвету. Тады ўжо лёсу Эўропы ня можна будзе вырашаць пасярэдняй палітычнай акцыяй на тэрыторыі Афрыкі й Азіі. Гэты факт безапэляцыйна перакрэсьліў-бы дасюлешнюю ідэальную каньюнктуру для Крамля й зьнішчыў-бы ўсе магчымасьці для далейшай экспансіі Масквы. У гэтай галіне час працуе ўжо цалкам супраць Крамля.

Захад ня ведае, але Крэмль ведае дакладна, што толькі сам факт затрыманьня ягонай агрэсіі і ўнемагчымленьня далейшай экспансіі будзе пачаткам хуткага канца чырвонай імпэрыі, і справа будзе тычыцца ня толькі страты сатэлітных дзяржаваў. У гэтай сытуацыі Расея ня будзе мець ніякіх шансаў далейшага стрыманьня ўжо раз перапыненага і так спозьненага працэсу з 1918 году — працэсу ліквідацыі найбольшай каляніяльнай дзяржавы, якая трымае пад сваёй акупацыяй народы, што стаяць культурна вышэй ад яе самое. Усё паказвае на тое, што Крэмль зусім дакладна гэта сабе ўсьведамляе.

☆

Ад часу, калі Расея пачала браць актыўны ўдзел у міжнародных дачыненьнях Эўропы — Эўропа заўсёды станавіла сабой вобраз разьбітай і рассваранай мазаікі розных дзяржаваў і штучных дзяржавак. Расея дасканала арыентавалася ў гэтай сытуацыі, умела выкарыстоўваць гэта й пасьлядоўна імкнуцца да свае канчальнае мэты — падпарадкаваньня сьвету. Да апошняга мамэнту Эўропа была для Расеі ідэальным полем дзеяньня дзеля распальваньня варажнечы паміж паасобнымі дзяржавамі і захопу цэласьці часткамі. Ніколі Эўропа ня здолела супрацьставіць агрэсіі Расеі маналітнага фронту.

Аб задзіночаньні Эўропы гаварылі шмат разоў: Рым — Карл Вялікі — Напалеон — Гітлер, — усё гэта назовы й імёны, зь якімі ў свой час прабавалі спалучыць акцыю задзіночаньня Эўропы. Гэта былі ўсё захопы. На кажны захоп гісторыя мае толькі адзін адказ: самаабарона кажнага народу, зацяты супраціў, даўгая сэрыя войнаў і канчальная перамога над агрэсарам.

І вось першы раз паўстае задзіночаньне Эўропы на іншым грунце. Такія зьявішчы, як дзьве сусьветныя войны, халодная вайна, сэрыя рэвалюцыяў, замахаў і пераваротаў плюс няспынныя ваенныя дзеяньні бяз стану вайны далі ўрэшце апошнім вольным народам Эўропы сьведамасьць, што лепш жыць і бараніцца разам, чымся гінуць разам у выніку прысуду супольнага праціўніка; і яны дасягнулі паразуменьня як вольны з вольным і роўны з роўным.

Зразумелая рэч, што кажную жывую й здаровую ідэю можна выкрывіць і забіць. Аднак бясспрэчным зьяўляецца тое, што цяпер Заходняя Эўропа стаіць на здаровым палітычным шляху.

Ідэя гэтая ня ёсьць новай. Яна даўно ўжо зьявілася й разьвіваецца ў народаў, якія змагаюцца зь беспасярэдняй небясьпекай фізычнага зьнішчэньня. Яна не канчаецца на Эльбе, як на лініі Зялезнай заслоны, ні на Одэры, ні на ўсходніх межах сатэлітных дзяржаваў.

Гэтая ідэя жыве й дае свае практычныя водгукі ўсюды, дзе пад акупацыяй расейскіх збройных сілаў знаходзіцца насельніцтва нерасейскага паходжаньня. На тых тэрыторыях ідэя супольнага змаганьня супраць супольнай небясьпекі зьявілася раней, чымся ў заходняй Эўропе, бо народы гэтыя даўно ўжо знаходзяцца ў працэсе бадай-што фізычнай ліквідацыі, праводжанай супольным праціўнікам.

У змаганьні бязь ніякай падтрымкі звонку — змаганьні, якое вядзецца на працягу шэрагу пакаленьняў, народы гэтыя хоць ня здолелі ўратаваць уласную свабоду, аднак уратавалі свабоду заходніх народаў і далі ім магчымасьць арганізацыі ўласнай абароны.

Захад заўсёды недаацэньваў і ня ведае цэлай гамы практычных магчымасьцяў, якія адчыняе рэалізацыя гэтай дынамічнай ідэі, але Масква, а асабліва камуністычная партыя вельмі добра ведаюць гэтую сілу. Ленін ужо ад пачатку існаваньня камуністычнай партыі гэтай сілы баяўся, і галоўныя свае высілкі накіроўваў на дэзарганізацыю і ўнемагчымленьне арганізацыі супольнага фронту народаў, што змагаліся за сваю незалежнасьць. Рабіў ён гэта ўсімі магчымымі мэтадамі яшчэ перад рэвалюцыяй, падчас рэвалюцыі й грамадзянскай вайны, і пасьля яе. Расея ў сваёй неўтаймаванай фурыі падбояў распухала з такой хуткасьцяй, што проста ня мела часу й магчымасьці канчальна ўкараніцца на абшарах паняволеных народаў. Яна пасьпела толькі спаралiжаваць іхнае нацыянальнае жыцьцё й разьвіцьцё. У гэтай стадыі неапанаваных цяжкасьцяў з народамі, якіх яна раней паняволіла, Расеі выпадкова надарылася проста ідэальная каньюнктура лёгкага апанаваньня цэлага сьвету, і як ёй здавалася, безь неабходнасьці праводжаньня адмысловай ваеннай акцыі. Каньюнктура гэтая трывала ад 1945 да 1960 году. Ад палавіны 1960 году яна пачала раптоўна зьнікаць. Гэты стан рэчаў ставіць Крэмль перад канкрэтнымі праблемамі, на якія ён мусіць адказаць практычнымі крокамі ў вадносна кароткім часе. Гэтыя праблемы ў ацэне Крамля мусяць мець крыху іншае адценьне ад ацэны заходніх дзяржаваў, а менавіта:

— Эўропа першы раз у сваёй найноўшай гісторыі зьбліжаецца да фактычнага задзіночаньня. Гэты факт вядзе да ўзьнікненьня ідэялёгіі супольнага змаганьня супраць СССР і вызваленьня ўсіх народаў, паняволеных Расеяй.

— Каньюнктура лёгкага апанаваньня Эўропы й усходняй паўкулі толькі палітычнай акцыяй канчаецца, і гэты факт перапыняе папярэднюю фазу сучаснай халоднай вайны.

— Пачаць у гэткіх абставінах ваенную акцыю дзеля апанаваньня Заходняй Эўропы мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі Захад напэўна заломіцца ад першага залпу савецкіх ракетаў і паддасца ў першых-жа гадзінах вайны.

Але што, калі пачнецца рэгулярная і доўгатрывалая вайна?.. На гэта адказ Крамлю дае прывід 1956 году.

І вось тут палягае найбольшая розьніца ў паняцьцях паміж Крамлём і заходнімі дзяржавамі. Для Захаду 1956 год азначае толькі паўстаньне ў Вугоршчыне й малы рух у Польшчы. Для Крамля-ж гэта было грознае memento.

Як толькі ў Крамлі адбыліся першыя ходы закуліснага змаганьня за ўладу, маса паняволеных народаў адразу зарэагавала войстрым і крывавым змаганьнем ня лічачыся зь неадпаведнымі абставінамі агульнага палітычнага палажэньня. Пачалося яно фармальным боем на вуліцах Тбілісі 8—9 сакавіка 1956 году, пракацілася хваляй па іншых нерасейскіх рэспубліках СССР; у чэрвені ўжо палілася кроў у Польшчы на вуліцах Познані, а крыху пазьней загрымеў Будапэшт. Ужо перад другім выбухам у Польшчы Масква скапітулявала і згадзілася на некаторае ўнезалежненьне гэтай краіны й злагоджаньне рэжыму. Захад, з поўнай лаяльнасьцяй да Масквы, абмежаваў свае зацікаўленьне толькі падзеямі ў Вугоршчыне.

Ня гледзячы на афіцыйную прапаганду, праводжаную Савецкім Саюзам для Захаду, Хрушчоў разумее вельмі добра сэнс гэтых фактаў і іхнае рэальнае значэньне. Ён ведае гэта з навукі Леніна й Сталіна, а таксама з уласнай палітычнай практыкі. Ён напэўна разумее вельмі добра, што ня толькі чырвоная імпэрыя, але й гістарычная расейская можа лопнуць у ваднэй вайне як імпэрыі Напалеона й Гітлера. Аб гэтым прыгадваюць яму даты 1918 і 1956.

Яшчэ год таму ён меў шансы стацца тым сувэрэнам Расеі, які зрэалізуе адвечныя мроі Расеі й завершыць апанаваньне сьвету. Ён сам гаварыў шчыра, што хацеў-бы дажыць да гэтай хвіліны. Але сяньня ён, наадварот, выразна бачыць прывід поўнага распаду ягонай імпэрыі. Гэтая сытуацыя вымагае ад яго, каб ён

— за ўсякую цану ратаваў тыя магчымасьці, якія адчыняла перад ім папярэдняя фаза халоднай вайны;

— за ўсякую цану перапыніў працэс далейшага задзіночаньня й кансалідацыі Заходняй Эўропы;

— за ўсякую цану ўтрымаў ініцыятыву ўва ўласных руках у далейшым праводжаньні халоднай вайны.

Гэта такі стан рэчаў, калі ходы дыктатараў становяцца безадказнымі, і сытуацыя сьпіхае іх да рабленьня непапраўных памылак.

☆

Вышэй прыгаданыя факты кансалідацыі Захаду гавораць за тое, што, ня гледзячы на сучаснае вельмі напружанае палажэньне, Захад стаіць ужо на шляху пэратрываньня найцяжэйшага пэрыяду свае гісторыі, і неўзабаве можа навет апынуцца паза небясьпекай паняволеньня. Гэтая небясьпека яшчэ ня мінула, аднак ужо цяпер вольны сьвет мусіць усьведаміць сабе каму ён будзе заўдзячваць тое, калі ён пэратрывае гэты сьмяротны крызіс:

Першы элемэнт — гэта бязыменная маса тых народаў, якія у сучасны мамэнт перажываюць у цэлай паўніні трагедыю паняволеньня й фізычнага вынішчэньня ворагам. Сваім змаганьнем народы гэтыя адваявалі час для канчальнай арганізацыі Захаду. Апошні мір 1920—1939 гадоў адваявалі для Эўропы толькі гэтыя народы.

Другі элемэнт — гэта апошні матарыяльны й маральны бастыён у васобе Задзіночаных Штатаў, — бастыён, які дазволіў апаматацца й сабраць свае сілы народам, вычарпаным да апошняга папярэднімі войнамі. Гэта факты сусьветнага маштабу, аб якіх гісторыя чалавецтва ня здолее маўчаць.

**В. Нануашвілі**
Сан Францыска

# *Ліст з Бэрліну*

Пасярод сямісотгадовага Бэрліну, першы раз у ягонай гісторыі вырасла «кітайская сьцяна». Яе пабудавалі камуністыя. Усе заходнія назіральнікі выказваюць думку, што гэты крок тлумачыцца ня толькі тым, што савецкія валадары Ўсходняй Нямеччыны жадаюць закрыць вітрыну вольнага сьвету зь безьлічай высокаякасных тавараў штодзённага ўжытку, але таксама хочуць ізаляваць насельніцтва савецкай зоны Нямеччыны ў культурным дачыненьні.

Заходні Бэрлін для насельніцтва савецкай зоны Нямеччыны быў і ў гэтым дачыненьні вітрынай вольнага сьвету. Тут жыхары савецкае зоны маглі хоць на пару гадзін адарвацца ад надакучлівага «сацыялістычнага рэалізму» і карыстацца бязь ніякіх перашкодаў дасягненьнямі свабоднай сусьветнай культуры. Перад тым, як была пабудаваная «кітайская сьцяна», людзі з Усходняга Бэрліну і наагул савецкай зоны Нямеччыны маглі свабодна прыходзіць у Заходні Бэрлін усё бачыць, правяраць, свабодна дыскутаваць — ухваляць або і адкідаць. Інакш кажучы, яны маглі рабіць тое, што ім было забаронена па той бок Брандэнбургскай брамы. Яны маглі выбіраць тое, што ім падабалася і рабіць свае высновы. Яшчэ ў ліпені сёлета тысячы ўсходня-бэрлінскіх працоўных наведвалі ведамую заходня-бэрлінскую Акадэмію каля Заапарку. Яны разглядалі новыя скульптуры, аглядалі новы квартал «Ганза», магутныя мадэрныя прамысловыя будынкі і шырокія новыя вуліцы Заходняга Бэрліну.

І жыхары ўсходняга сэктару Бэрліну і савецкай зоны Нямеччыны выкарыстоўвалі гэтую свабоду. У мінулым годзе 560 тысяч асобаў з савецкай зоны наведала заходня-бэрлінскія тэатры. 85 тысяч наведвала заходня-бэрлінскую Кансэрваторыю, у якой выкладае сусьветна ведамы дырыгент Караян. Слаўны Палац «Тытанія» і іншыя шматлікія канцэртныя залі Заходняга Бэрліну ў бальшыні выпадкаў былі наведваныя людзьмі з Ўсходняй Нямеччыны. 100 тысяч іх сядзелі перад катэдрамі заходня-бэрлінскіх народных унівэрсытэтаў. У 1960-ым годзе, 250 тысяч кнігаў было пазычана наведвальнікам з Усходняй Нямеччыны заходня-бэрлінскімі бібліятэкамі. Заходня-нямецкія прафсаюзы і культурныя арганізацыі асыгноўвалі вялікія сумы, каб даць магчымасьць насельніцтву паняволенай часткі Нямеччыны браць удзел у культурным жыцьці Заходняга Бэрліну.

Нават некаторыя культурныя апаратчыкі савецкай зоны Нямеччыны разглядаюць ізаляцыю, праведзеную ў жыцьцё 13-га жнівеня, як трагічнае зьявішча. Гэтыя культурныя апаратчыкі таксама былі частымі гасьцямі ў Заходнім Бэрліне — пры кожнай прэм'еры. Кіраўнікі ўсходня-бэрлінскай гэтак званай народнай кінастудыі «ДЭФА», таксама як і мільёны людзей савецкай зоны напаўнялі заходня-бэрлінскія кінатэатры, каб пабачыць нешта сьвежае, а не надакучлівыя, нудныя прапагандовыя фільмы ўсходняй прадукцыі.

Нядаўна, два найбольш ведамыя заходня-бэрлінскія пісьменьнікі, Гюнтэр Грас і Вольф-Дытрых Шнурэ, зьвярнуліся да сваіх усходня-бэрлінскіх калегаў з адкрытым лістом, у якім яны заклікаюць іх пратэставаць супраць прымусовай ізаляцыі Ўсходняга Бэрліну ад Заходняга. Абодва заходня-бэрлінскія пісьменьнікі падкрэсьліваюць, што сябры пісьменьніцкай арганізацыі савецкай зоны, гэтак званага «Нямецкага Саюзу Пісьменьнікаў», павінны асудзіць мерапрыемствы іхнага камуністычнага ўраду. «Хто маўчыць — той вінаваты», — гаворыцца ў канцы гэтага адкрытага ліста.

Гэтае выступленьне абодвух сусьветна-ведамых пісьменьнікаў супраць камуністычнага бяспраўя выклікала сярод насельніцтва абедзьвюх частак Бэрліну гарачае прызнаньне.

**П. О-х.**

---

якая зьмяшчае ў сабе адрознасьць іх. Форма першага — гэта выяўленьне існасьці ў яе, так сказаць, статыцы, другога-ж — у дынаміцы. Магчымасьці ў патэнцыі й тыя-ж магчымасьці ў сваім выяўленьні, у дзейнасьці — гэта іх адрознасьць.

У васнаўным тут дзьве формы выражэньня агульнага: агульнае ў форме «я» і агульнае ў форме «не-я». Умовімся першую называць «ідэяльнаю», а другую «рэальнаю». У першай форме існуе «не-я» — у патэнцыі, а ў другой — «я» ў патэнцыі, пры дзейнасьці «я» ў першай і «не-я» ў другой. Гэта значыць, што «я», выражаючы свой стан сьвядомасьці, можа зьявіцца выяўленьнем і «не-я» (ідэяльная форма) і, наадварот, выражаючы «не-я» «я», тым самым знаходзіць у гэтым сваё выяўленьне (рэальная форма).[48]

Далей даецца супастава абодвых вершаў — Гаруновага «Паэту» й Багдановічавага «Маладому песьняру» — з розных бакоў:

У вершы М. Багдановіча выражана разуменьне творчасьці, як выказьніка, дадзены вобраз ідэяльны ў яго першым мамэньце станаўленьня. Верш-жа А. Гаруна ажыцьцяўляе ў сабе рэальны вобраз творчасьці, як дзейніка, вобраз у яго другім мамэньце станаўленьня. Цікава, як-жа ў гэтым другім аспэкце выражаюцца ўмовы мастацкасьці, а значыць, і жыцьцяздольнасьці твору, як чыньніка рэвалюцыі ў стане сьвядомасьці чалавека, у поле якога ўваходзіць той ці іншы мастацкі твор.

Галоўная адзнака мастацкасьці тут выражаецца, як патрабаваньне мастацкай праўды, праўды ня тэй, «што будзе», ня тэй, «што ў небе», а праўды тэй, што ёсьць, што на зямлі. Не дарма, да рэчы сказаць, ёсьць прыказка: «праўда вочы коле», а ясна, што ўсякае дзеяньне выклікае супрацьдзеяньне, якое па сіле роўна першаму. Адгэтуль сілаю мастацкага твору вызначаецца сіла й размах рэвалюцыі ў сьвядомасьці чытача. Гэта якраз і ёсьць тое самае, што на мове М. Багдановіча называецца «з сталі каваць, гартаваць гібкі верш» і «брызнуць іскры з халодных каменьняў».

У істоце чалавека існуюць нявычэрпныя магчымасьці для выяўленьня сваёй існасьці, але кола выяўленьня гэтых магчымасьцяў абумоўліваецца й абмяркоўваецца тымі гістарычнымі ўмовамі й тымі эканамічна-сацыяльнымі дачыненьнямі, у якіх жыве чалавек. Словам, абмяркоўваюцца й вызначаюцца сучасным чалавеку станам культуры, як быцьцём, у коле якога жыве чалавек. На мове А. Гаруна — гэта разоры й «путы духа». І вядома, што каштоўным будзе той факт, які зьнішчыць хоць адну разору або разарве хоць адно пута й, такім чынам, пашырыць круг выяўленьня тых магчымасьцяў, якія захаваны «ў таямніцы жывых істотаў». Засыпаць-жа разору ці парваць «духа путы» можа толькі той чалавек, які гэтыя путы й разоры пазнаў; адгэтуль каштоўна тая творчасьць, якая ўвасабляе ў вобразах мастацкіх ці, інакш кажучы, матарыялізуе ў формах мастацкага слова самасьвядомасьць чалавека, менавіта — чалавека, а ня рэчаў, розных адцятасьцяў і «праўды тэй, што ў небе», што наглядаецца ў шмат якіх зборніках сучаснай літаратуры. Толькі цераз такую творчасьць, толькі цераз такія мастацкія вобразы «я» можа пазнаваць сябе і несябе і абуджацца да дзейнасьці, да творчасьці, у якой-бы форме яна ня выражалася, ці ў форме змаганьня з ворагам, ці ў форме працы над пабудоваю новага жыцьця й інш.

Разуменьнем самасьвядомасьці чалавека тут і акрэсьліваецца кола таго, што мы называем мастацкім і што называем мастацкаю праўдаю. Гэтым-жа самым вызначаецца й прадмет мастацтва. Нельга тварыць з таго, чаго зусім няма й ня было. Значыць, той твор, які прэтэндуе на праўду выражэньня й выяўленьня, скажам, самасьвядомасьці чалавека будучыні, ня ёсьць яшчэ зьява мастацтва тэй самай будучыні. Праўда, калі ў такім творы чалавек будучыні зьяўляецца толькі ідэяльнаю формаю ажыцьцяўленьня рэальнай існасьці, праўды тэй, што на зямлі — гэта будзе мастацтва, але зноў такі ня будучыні, а сучаснасьці. Гэта асобны від творчасьці, які павінен зьмяшчаць у сабе ўсе адзнакі мастацкасьці, як і іншыя віды. Мастацкім зьяўляецца й другі від творчасьці, які суладжвае ў вадзінства ідэяльную існасьць і рэальную форму. Такія-ж злучэньні, як існасьць і форма ідэяльныя, мы можам толькі ўмоўна лічыць за мастацтва: гэта фактычна тое самае «мастацтва для мастацтва»; а такое злучэньне, як існасьць і форма рэяльныя, інакш кажучы «не-я» роўнае сабе, — зусім ужо не мастацтва, а хутчэй, скажам, можа быць у лепшым разе мастацкаю фатаграфіяй.

Словам, у вершы А. Гаруна дадзена такое праблематычнае разьвязаньне існасьці мастацкасьці й жыцьцяздольнасьці мастацкага твору: «я» роўнае «не-я» і «не-я» роўнае «я» — вось аснова і мастацкасьці і няўміручасьці твораў. І гэта будзе блізка да праўды, бо сьцьвярджаецца гісторыяй разьвіцьця сусьветнай літаратуры. «Суб'ектыўнае» жывуча тады, калі яно зьяўляецца выяўленьнем «аб'ектыўнага», і наадварот: выяўленьне «аб'ектыўнага» тады жывучы, калі яно ёсьць выражэньнем «суб'ектыўнага». Гэта й ёсьць аснова двух кірункаў у разьвіцьці формаў мастацкай творчасьці: кірунку ідэяльнай формы й кірунку формы рэальнай.

Верш «Песьняру» М. Багдановіча належыць да ідэяльнай формы, а верш «Паэту» А. Гаруна да рэальнай. І тут цяжка казаць аб тым, якой з гэтых формаў аддаць перавагу. Абодвы вершы адпавядаюць умовам творчасьці мастацкай, а таму абодвы аднолькава каштоўны, бо абодвы вершы мастацкія. Мастацкасьць іх зьмяшчаецца ў тым, што ў першым «я» растапляе ў сабе «не-я», а ў другім — «не-я» растапляе ў сабе «я». «Не-я» гэта ў вершы Гаруна ажыцьцяўляецца ў вобразе чытача, які тоіць у сабе «я» самога паэты, як створанае тоіць у сабе дух творцы.

Цікава тут-жа зьвярнуць увагу на рытмічныя асаблівасьці, якія зьвязаны ў гэтых паэтаў-мастакоў з рознымі формамі. Верш М. Багдановіча (формы ідэяльнай) рытмічна пабудаваны на трохдольнай аснове; верш А. Гаруна — на двухдольнай. Далей, верш М. Багдановіча ў форме адозвы, а верш А. Гаруна ў форме маналёгу. Абедзьве гэтыя формы — фактычна формы размовы накіраванай ад я да ты, інакш кажучы, кажная зь іх прадгадвае сабою аб'екта, да якога зьвяртаюцца. І вось, у вабодвых гэ-

## «Моцна кахаў я цябе, дарагая, Але расстацца нам час ...»

(Да трагічнай сьмерці Ўсевалада Краўчанкі)

Трагічная сьмерць у Францыі ў часе турыстычнага падарожжа беларускага савецкага пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі застаецца бадай што зь некаторымі нявысьветленымі дэталямі. Тым больш, што ўжо цяпер савецкая прапаганда робіць усё магчымае, каб гэтую сьмерць із сымбалю нацыянальнае трагедыі, якім яна ёсьць, ператварыць у прыватны выпадак — так як гэта бальшавікі намагаюцца рабіць з самагубствамі ў 30-х гадох Ігнатоўскага, Галадзеда, Чарвякова або із спробай самагубства Янкі Купалы. Дзеля гэтага, адказу на пытаньнне «Кім быў Усевалад Краўчанка, як беларускі пісьменьнік, і што яго мучыла й перасьледавала?» трэба шукаць перш-на перш у ягонай літаратурнай спадчыне.

Вось-жа, у 12-ым нумары часапісу «Маладосьць» у 1959 годзе, якраз у тым нумары, што прысьвечаны саракагодзьдзю БССР, было зьмешчана Краўчанкава апавяданьне «Зорка Вэнэра». Апавяданьне на першы пагляд самае звычайнае, сацрэалістычнае, з шаблённым сюжэтам ды прапагандавымі штампамі. Тымчасам, прыгледзеўшыся бліжэй да яго, у ім зашыфраваныя цікавыя, шматзначэнныя дэталі, якія ў сьвятле трагічнай сьмерці набіраюць сваю сілу й значэньне.

Гэроем у апавяданьні «Зорка Вэнэра» — беларуская дзяўчына Наташа Лойка, якая любіць свой край, народ і ягоныя песьні. «Яшчэ толькі перайшоўшы ў восьмы клас, — піша пра яе пісьменьнік, — яна ўлетку з групай аднакласьнікаў хадзіла ў падарожжа па роднаму краю».

Наташа мроіла пайсьці вучыцца ў мэдыцынскі інстытут. Але заміж у інстытут, яна трапляе на будоўлю Сілевіцкай ДРЭС, дзе адбываюцца падзеі. Цікава, між іншага, што брыгадай, да якое прыдзялілі Наташу, кіруе «непасьпешлівы ў рухах» «мужчына год пад сорак» (саракагодзьдзе-ж БССР!) на прозьвішча «Лабуда». Характэрная асацыяцыя! Пісьменьнік чамусьці не назваў брыгадзіра нейкім Саколічам ці Арловічам (што ён свабодна мог-бы зрабіць і што некаторыя пісьменьнікі робяць), а назваў яго Лабудой — слова, якім сьмела можна было-б азначыць не адно будаўніцтва Сілевіцкай ДРЭС, а наагул усё будаўніцтва гэтак званага камуністычнага грамадзтва. Ня дзіва таму, брыгада Лабуды дый цэлае будаўніцтва на сьвежы позірк Наташы зрабіла ўражаньне хаосу й бязладзьдзя: «Наташа не адчувала свайго месца ўва ўсёй гэтай **мітусьні»**, гаворыць у вадным месцы пра яе пісьменьнік, прыкрываючы далей гэтае азначэньне шаблёнымі рэплікамі і сцэнкамі.

У тым-жа Краўчанкавым апавяданьні «Зорка Вэнэра» ёсьць таксама й іншая дэталь. На будаўніцтве Наташа Лойка запісваецца сьпяваць у хоры. Далей чытаем: «Кіраўніца хору Ала Міхайлаўна — нядаўна выпускніца кансэрваторыі — мела свой мэтад навучаньня: яна не вылучала з калектыву якую-небудзь лепшую сьпявачку, каб толькі ёй адной заўсёды даручаць сольныя выступленьні, а пачарзе заахвочвала ўсіх дзяўчат з добрым голасам выступаць запываламі ў хоры». І вось кіраўніца хору даручае Наташы запяваць песьню. «Але Наташа, — піша аўтар, — даслухаўшы Алу Міхайлаўну, раптам папрасіла: — «Прабачце, Ала Міхайлаўна, але я... не адчуваю гэтай песьні і, шчыра кажучы, ня вельмі яе люблю... Вось калі-б вы даручылі мне прасьпяваць 'Зорку Вэнэру'...» У апавяданьні ня сказана гэта, бадай, і няма патрэбы, бо той, хто сочыць пытаньне рэпэртуару беларускіх хораў, ведае, што родная песьня ў іх выціснутая далёка на задні плян, а часамі яе й наагул там няма. Наташа-ж, пра якую аўтар кажа, што яна трымала сябе ў хоры ў часе выступу «сьціпла, не выстаўляючыся і разам з тым **сьмела, з пачуцьцём уласнай годнасьці»**, папрасіла даць ёй магчымасьць засьпяваць якраз беларускую песьню. Далей у апавяданьні апісваецца таксама шматзначэнная сцэнка ў часе самадзейнага канцэрту пасьля таго, як Наташа прапяяла «Зорку Вэнэру»:

«Калі Наташа скончыла сьпяваць, заля, нібы зачараваная, спачатку замёрла ў маўчаньні. Замёрла і сэрца ў Наташы ад хваляваньня — ці спадабалася гэтым цудоўным рабочым людзям, якіх яна пасьпела ўжо зразумець і моцна палюбіць, яе песьня, ці здолела яна перадаць ім усё зачараваньне пявучых слоў, мілагучнай мэлёдыі?.. І раптам заля грымнула воплескамі. Бурай воплескаў! Адусюль чуліся выгукі — «біс, біс!» Людзі ўставалі з сваіх месцаў і прасілі паўтарыць песьню...»

Усевалад Краўчанка трагічна скончыў сваё жыцьцё ў Францыі, бацькаўшчыне крылатых лёзунгаў Вялікае Францускае Рэвалюцыі «Свабода, Роўнасьць, Брацтва». Прыехаў ён туды з роднага краю, якому таксама жадаў зьдзейсьненьня тых самых лёзунгаў, нястачу якіх так зырка і драматычна падчырквае факт ягонай трагічнай сьмерці. У сьвятле гэтае трагедыі пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі, набіраюць асаблівага гучаньня ягоныя словы а апавяданьня «Зорка Вэнэра»: «Жыцьцё, як ведама, складаная рэч, і часта нават у сьмелых і гордых людзей збываюцца ня ўсе мары».

**Я. З.**



# Пляны сваё, а рэчаіснасьць...

На студзеньскім пленуме ЦК КПСС сёлета з асаблівай яскравасьцяй высьвятлілася, што першыя два гады сямігадовага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі ня толькі праваліліся: фактычна, збожжавая гаспадарка і жывёлагадоўля ў СССР апынулася на мяжы з катастрофай. У першыя два гады рэалізацыі сямігадовага пляну, сяўба і ўборка ураджаю праводзілася ў калгасах і саўгасах з такім спазьненьнем, што сельскагаспадарчыя культуры не высьпявалі і частка іх заставалася няпрыбранымі, заставалася на зіму пад сьнегам.

Страты збожжа, асабліва на цаліне, ў час уборкі, малацьбы, перавозкі на прыймовыя пункты, дасягнулі надзвычайных памераў. Ураджайнасьць не павялічвалася, а ў шэрагу вобласьцяў зьнізілася. У выніку ўсяго гэтага агульныя зборы і дзяржаўныя нарыхтоўкі збожжавых і тэхнічных культураў у параўнаньні зь мінулымі гадамі значна зьменшыліся.

Разьлікі Хрушчова на тое, што пашыраныя плошчы пасеваў кукурузы пераікрыюць нястачу збожжа, ня спраўдзіліся. Зборы кукурузы зернем далёка не кампэнсавалі стратаў. Справа ў тым, што ні на Беларусі, ні ў Прыбалтыцкіх рэспубліках, а тым больш у цэнтральнай зоне Расейскай Фэдэрацыі, кукуруза на зерне не высьпявае, бо гэтая культура любіць сонца, цяпло й урадлівую глебу. Усе імкненьні дасьледчых станцыяў і паасобных навукоўцаў-сэлекцыянэраў вывесьці спэцыяльныя гатункі кукурузы, прыстасаваныя да кліматычных умоваў гэтых зонаў, да гэтага часу посьпеху ня мелі. Звычайна на поўнач ад навукова ўстаноўленай мяжы высьпяваньня кукурузы на зерне, якая праходзіць на Украіне і далей на ўсход у Варонежскай вобласьці, пасевы кукурузы выкарыстоўваюцца на зялёны корм жывёле, або на малавартасны бедны бялкамі сілас.

Не дае кукуруза высокіх ураджаяў зернем і ў тых зонах, у якіх яна высьпявае, бо кукуруза працаёмкая, патрабуе пільнага догляду на працягу ўсяго лета, а гэтую магчымасьць калгасы Украіны, Малдавіі, Паўночнага Каўказу не заўсёды маюць. Калгасы сеюць кукурузу і ў неадпаведных зонах, пад прымусам, бо як відаць з статыстычных зьвестак там ураджаі пшаніцы былі вышэйшыя чымся кукурузы, пры меншых затратах працы.

Пасьля пленуму ЦК КПСС Хрущоў у ролі недасяжнага знаўцы й аўтарытэту ўва ўсіх пытаньнях сельскай гаспадаркі наведаў Украіну, Паўночны Каўказ, вобласьці Цэнтральнай чарназёмнай зоны, Сібір, Казахстан, дзе правёў шматлюдныя нарады передавікоў сельскай гаспадаркі. Усю віну й адказнасьць за правалы ды і ганебнае становішча сельскай гаспадаркі Хрушчоў усклаў на мясцовых партыйна-савецкіх кіраўнікоў. Пасьля падарожжа Хрушчова значная частка адказных працаўнікоў крайкомаў, абкомаў і навет ЦК КП саюзных рэспублікаў былі зьнятыя з сваіх пасадаў, а некаторыя зь іх страцілі партыйныя білеты за ашуканства й прыпіскі ў справаздачах аб сельскай гаспадарцы.

Камуністычная верхавіна Беларусі ўцалела. Мазураву й ягоным падручным удалося адыграцца на сакратарох райкомаў, а таксама на некаторых старшынях калгасаў і дырэктарох саўгасаў. Некалькі зь іх навет судзілі. Аднак навуку студзенскага пленуму камуністычныя кіраўнікі Беларусі й сакратар ЦК Мазураў улічылі. Каб утрымацца на паверхні, а можа прабіцца вышэй, Мазураў прыняў неадкладныя крокі, каб цалкам выканаць дырэктывы пленуму, а асабліва патрабаваньні Мікіты Хрушчова. У час веснавой сяўбы калгасы і саўгасы адвялі вялізарныя плошчы пад грэчку, бо гэтага дамагаўся Хрушчоў. Апрача пасеваў кукурузы на сілас, некалькі тысяч гэктараў было засеяна на зерне, бо й гэта вельмі падабаецца Хрушчову. Мала таго, што на Беларусі калгасы сеюць цукровыя буракі для перапрацоўкі іх на цукар — некалькі тысяч гэктараў давялося засеяць цукровымі буракамі на корм жывёлы, бо на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі ў Варонежы Хрушчоў сказаў: «У стварэньні кармавой базы для жывёлагадоўлі, поруч з кукурузаю, асабліва важная роля належыць цукровым бураком. Знашоўшы цукровыя буракі, як кармовую культуру, мы як бы адкрылі дыямэнтавыя россыпі.»

Веснавая сяўба ў калгасах і саўгасах Беларусі закончылася ў тэрмін. Нябывала рана пачалі рыхтавацца да жніва. Само жніво пачалося ў першай палове ліпеня, калі пасевы на палёх былі зялёнымі й недасьпелымі. Такая пасьпешнасьць мела сваю мэту. Мазураў разам з сваімі дарадчыкамі ў ЦК партыі меркавалі зваліць недасьпелы хлеб на працягу дванаццаці — пятнаццаці дзён, каб у ліку першых рэспублік рапартаваць Маскве аб працоўных посьпехах у калгасах і саўгасах у гонар надыходзячага дваццаць другога партыйнага зьезду.

Каб пасьпяхова правесьці жніво, у калгасы й саўгасы з гарадоў былі накіраваныя ўпаўнаважаныя й прыганятыя, якія вельмі часта без патрэбы ўмешваліся ў дробязі працы. Сяго-таго хвалілі, а больш ганьбілі ў прэсе за нядбайства, за слабыя тэмпы збору.

Калгасы й саўгасы вялікія надзеі ўскладалі на камбайны, але гэтыя няпэўныя машыны больш стаялі, чым працавалі, бо навет самы дробны рамонт затрымліваўся з прычыны адсутнасьці запасных частак. Аб нізкім удзеле камбайнаў у жніве сьветчыць і такі факт: на Горадзеншчыне зжатай плошчы на долю камбайнаў прыпадае толькі сем працэнтаў.

На жніве ўпарта накідаўся яшчэ новы, нябывалы, так званы прагрэсыўны спосаб збору ўраджаю, які шырока ўжываўся ў гэтым годзе на палёх Паўночнага **Каўказу,** часткова на Ўкраіне й іншых збожжавых зонах. Там у час жніва да трактара прычаплялі замест аднэй жняяркі дзьве і навет тры. Прычым пушчалі трактар з хуткасьцяй да 16 кілямэтраў у гадзіну. Можна сабе ўявіць, колькі збожжа застаецца на полі пасьля збору гэтым новым прагрэсыўнным спосабам.

Аднак так-сяк на першага жнівеня плян збору ўраджаю быў выкананы на Беларусі на 40 працэнтаў, а ў Берасьцейскай вобласьці на 57 працэнтаў, у Горадзеньшчыне на — 50. Значна зацягвалася жніво на Меншчыне, Віцебшчыне. У жнівені тэмпы працы значна зьнізіліся. У цэнтральных газэтах усё часьцей і часьцей кіраўнікі калгасаў і саўгасаў абвінавачваліся, што «на ўборцы ня створаны абставіны працоўнага напружаньня».

Жніво цягнулася на працягу ўсяго жнівеня. У верасьні нязжатым заставалася 330 тысяч гэктараў збожжавых культураў, у тым ліку ў Менскай вобласьці 95 тысяч гэктараў. Марудна йдзе малацьба, затрымліваецца здача збожжа дзяржаве. А тут насьпелі іншыя працы на полі. Да сяньняшняга дня калгасы і саўгасы не пачалі капаць бульбы. Незакончаная на 20 працэнтаў сяўба азімых. Вялізарныя плошчы пасеваў кукурузы на 10 верасьня прыбраныя толькі на 34 працэнты.

Вось так ажыцьцяўляюцца меркаваньні ЦК КП Беларусі аб зборы ўраджаю ў калгасах і саўгасах. У пастанове ЦК КП «Аб нездавальняючым ходзе ўборкі кукурузы, уборкі і нарыхтоўках бульбы і цукровых буракоў», апублікаванай у «Советской Белоруссии» за 14 верасьня прапануецца «арганізаваць працу цэлы дзень ад цямна да цямна», бо зацягваньне збору ўраджаю пагражае гібеляй ад замаразкаў, папераджае пастанова.

Прыгонная праца ў калгасах ніколі ня была і ня будзе прадукцыйнай.

**В. Б.**

### БЕЛАРУСЬ ПЛЯЦДАРМАМ САВЕЦКАЕ ЗБРОЙНАЕ СІЛЫ

Заходнія турыстыя, што пабывалі ў Менску, прывозяць з сабой уражаньне пра беларускую сталіцу, як пра ваенны горад. На менскіх вуліцах і плошчах, расказваюць яны, часамі бачыш куды больш ваенных уніформаў, чымся цывільнае вопраткі. Што Менск ператвораны Масквой у ваенны горад, а Беларусь — у ваенны лягер, сьветчаць і іншыя дадзеныя.

У нядзельным нумары газэты «Нью-Ёрк Таймс» (10. IX. 61) быў апублікаваны артыкул сп. Гансана Болдуіна аб разбудоўваньні савецкае ваеннае машыны ў Усходняй Эўропе (магчымае пабольшаньне на 850 тыс. жаўнераў). Заходнія ваенныя экспэрты, піша сп. Болдуін, уважаюць ,што на захад ад Уральскіх гораў Савецкі Саюз трымае 126 дывізіяў войска. Зь іх 12 дывізіяў стаяць на лініі Ленінград—Мурманск; **больш за 50 дывізіяў — на Беларусі;** звыш 12 дывізіяў знаходзяцца ў раёне Кіеў—Адэса і каля 24 дывізіяў на Каўказе.

---

тых выпадках рытмічнае гучаньне вершаў працякае якбы зьнізу ўверх. Узмацненьне націскное ў вабодвых выпадках прыпадае не на пачатак асновы, а на яе канец, інакшай кажучы, у вершы М. Багдановіча анапэстычная аснова (- - I), а ў вершы А. Гаруна ямбічная (- I). Гэта як-бы пераход слабога гучаньня ў моцнае, які ў першым выпадку адбываецца больш павольна, а ў другім — больш напорна. Даўжыня самога гучаньня ў вабодвых выпадках аднолькавая (у вершы М. Багдановіча 3 x 4 (чатыры трохдольных мэтрычных адзінкі), а ў вершы А. Гаруна 2 x 6, а і 3 x 4 — 12 і 2 x 6 = 12). Бязумоўна, што аднолькавасьць у даўжыні гучаньня тут узята, як ідэяльная або нарматыўная, за межамі якой пачынаецца ўжо рэальная адрознасьць абодвых гучаньняў. Першы верш вызначаецца больш спакойнай, павольна-разьмернай і цьвёрдай рытмічнай плыньню; другі — больш запальна-кіпучаю, напорнаю й перарыўнаю. Першая плынь працякае праз чатыры парогі ўзвышэнцаў, а другая праз шэсьць, расстаўленых на лініях аднолькавай даўжыні ў вабодвых выпадках. Пры гэтым трэба заўважыць на ўласьцівасьць першай лініі павялічваць лік парогаў, у той час, як другая вызначаецца здольнасьцю зьменшваць іх цераз разбурэньне. Павялічэньне парогаў на трохдольнай аснове зазвычай адбываецца ў пачатку гучаньня, тады й мэтрычная адзінка набывае выгляд такі: (-I) («Ведай, брат малады»...). Пры разбурэньні-ж парогаў па двухдольнай аснове мэтрычная адзінка набывае выгляд такі: (- -) («Мне сэрца кроіцца ад крыўды»). Гэтыя зазначэньнні належаць толькі да рытмічных гучаньняў узвышальнага характару, у якім адкрыты перад намі вобразы вершаў А. Гаруна й М. Багдановіча. Яны прадстаўляюць сабою, кажучы словамі Багдановіча, як-бы вокны «ў іншы сьвет», менавіта, у сьвет культуры ў вадрознасьць ад сьвету прыроды.

Так, вершы А. Гаруна й М. Багдановіча — гэта нярухомыя вобразы-вокны «ў іншы сьвет», адкрытыя ў рытмічным гучаньні ўзвышальнага парадку. Пры гэтым вокны з асобай уласьцівасьцю адкрываць перад людзкім вокам жыцьцё ў шырыні, адваротна-залежнай ад адлегласьці чалавека ад вакна. Чым бліжэй мы стаім каля вакна, тым шырэйшыя перад намі прасторы расьсьцілаюцца, і наадварот, чым далей ад яго мы, тым і кола прастору вузейшае, але затое большая глыбіня адкрываецца перад нашымі вачыма. У першым-жа выпадку мы бачым толькі паверхню. Вось чаму суглядаюцца нявычарпныя глыбіні праз такія мастацкія вокны, як творы Шэксьпіра, Байрана, Гётэ і шмат інш., усё тым большыя, чым далей адыходзіць у вякох чалавецтва ад гэтых вакон. Вось чаму вельмі цяжка адкрываць усю нявычэрпную глыбіню мастацкіх твораў сваіх сучасьнікаў і ўжо на гэтай аснове ствараць такія разуменьні аб творах, якія-б набліжаліся да абсалютнай ісьціны.[47]

У наступным артыкуле, прысьвечаным ужо творчасьці Уладзімера Дубоўкі, Бабарэка бярэ некаторыя Гаруновы вобразы за адыходны пункт для азначэньня мастацтва паэзіі й першага этапу дасьледваньня яго:

> Алесь Гарун сказаў: «Думкі — дыямэнты, краскі жыцьця». Тут, як відаць, адно паэтычнае азначэньне «дыямэнты» не здавальняла А. Гаруна, і ён дадаў яшчэ адно: «краскі жыцьця». Дыямэнты — гэта прыгожая й каштоўная рэч, але гэта толькі каменьне. Краскі таксама прыгожая рэч, але гэта ўжо не каменьне. Краскі — аблічча некаторай рухомай існасьці. Ёсьць краскі, значыць ёсьць і тое, на чым гэтыя краскі растуць, ёсьць карэньні й крыніцы іх; а ёсьць краскі, трэба спадзявацца й пладоў. Праўда, бываюць і пустацьветы як жыцьця, так і паэзіі. Але на гэты раз ня проста краскі, а краскі жыцьця, краскі, якія зьяўляюцца на дрэве жыцьця, як асобы, так жыцьця і нацыянальнай і сацыяльнай грамады, а таксама й жыцьця агульналюдзкага. Жыцьцё тут як-бы тая глеба, на якой могуць узыходзіць і красаваць краскі, а адкрасаваўшы — асыпаць насеньне, зь якога зноў могуць узрасьці краскі, а могуць і не ўзрасьці, гледзячы ад той глебы й умоваў, у якія падае зерне.
>
> Чыстыя сьлёзы з вачэй пакаціліся нізкай парванай,
> Але, ўпаўшы у пыл, брудам зрабіліся там.
>
> Так кажа М. Багдановіч. І чыстае можа зрабіцца брудным. Усё залежыць ад умоваў. Дык вось-жа ўявеце сабе нешта цэльнае й адзінае з таго, што й ад дыямэнтаў — дарагіх каменьняў, і ад красак, што бываюць рознага хараства й каштоўнасьці, і ад жыцьця людзкога, якое бывае ўсялякім, — гэта цэльнае й адзінае й будзе тое, што выражана А. Гаруном у тым, што зазвычай называецца думкамі. Вось мова мастацтва! Гэта мова асобая, калі льга так сказаць. Гэта воблік асобых працэсаў, што адбываюцца ўнутры паэты, гэта воблік асобых станаў яго сьвядомасьці. Але гэта ня значыць, што гэтыя асобыя працэсы й станы ня могуць быць раскладзены на сустаўныя элемэнты па іх выражэньню й г. д. Толькі блізкасьць да абсалютнай праўды ў гэтым пазнаньні залежыць ад стану навукі таго часу, у які робіцца раскладаньне й пазнаньне.
>
> Як думкі — дыямэнты і краскі жыцьця, так і наагул мастацтва — гэта таксама дыямэнты й краскі жыцьця, толькі яшчэ больш складаныя. Мастацтва — гэта сьвет у сьвеце. Яго вобразы — гэта асобыя паэтычныя паняцьці. На прыкладзе аднаго вобразу з Алеся Гаруна ўжо відаць, што значыць перакласьці паэтычнае паняцьце на мову адцятых разуменьняў, на мову сьвету з другой сыстэмы культуры, якая творыцца таксама чалавекам, але ўжо дзейнасьцю іншага характару, чым дзейнасьць мастацкая. Дык вось-жа, перадусім вынікае задача неабходнасьці раскрыць вобразы, перакладаючы іх на мову разуменьняў і цераз гэта вызначаць іх сацыялягічны эквівалент. Перакладаць-жа азначае яшчэ апісваць здольнасьці твору да выражэньня ці выказваньня.[48]

Крыху далей крытык спыняецца на разьдзеле «На чужыне» із зборніка «Матчын Дар», супастаўляючы яго з аднайменным разьдзелам у Дубоўкавым зборніку «Строма» й робячы цікавыя й глыбокія высновы што да дзеяньня фактару «чужыны» ў нацыянальным аспэкце паэзіі:

> У Алеся Гаруна ёсьць таксама, як і ў Дубоўкі, цэлы разьдзел вершаў «На чужыне». Тут фармуючым пачаткам зьяўляецца «я» зусім іншага характару, чым тое, што было выяўлена ў вершах і Ул. Дубоўкі і Я. Купалы. Вось некалькі радкоў зь першага вершу ў названым разьдзеле:

# Адказ на „Адказ”

У нумары 58 (ліпень 1961) органу КГБ — «Голас Радзімы» — быў зьмяшчаны «Адказ земляку А. Сапежку». Гэты «Адказ» мог застацца незаўважаным, калі-б ён ня быў напісаны «навуковым супрацоўнікам» Інстытуту гісторыі Акадэміі навук БССР і такім чынам гісторыкам А. Хацкевічам.

Як нашы чытачы маглі ўжо раней даведацца з бачынак «Бацькаўшчыны», сп. А. Сапежка жадаў дазнацца, чаму была абрэзаная Беларусь, паймённа «чаму Смаленшчыну далучылі да РСФСР, Вільню да Жмудзі, Дзьвіншчыну да Латвіі, а Белавескую пушчу да Польшчы» ды «дзе дзеліся людзі беларускія, якіх ня прыбыло за 62 гады, а адбыло».

Гэтае запытаньне было ськівавана і ў рэдакцыю «Голасу Радзімы», і вось КГБ БССР даручыла даць «адказ» гісторыку А. Хацкевічу.

Апошні піша: «Па адміністрацыйнаму дзяленьню былой царскай Расеі Беларусь як адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка не існавала. Вам павінна быць добра ведама, што царскі урад, праводзячы вялікадзяржаўную шавіністычную палітыку, падвяргаў насельніцтва нацыянальных ускраін, у тым ліку і Беларусі, цяжкаму прыгнёту. Ён выкрасьліў з ужываньня нават само слова Беларусь, а яе тэрыторыю й насельніцтва разьдзяліў паміж пяцьцю паўночна-заходнімі губэрнямі: Віленскай, Віцебскай, Горадзенскай, Менскай і Магілеўскай».

Як бачым, гісторык А. Хацкевіч адразу выкрасьліў Смаленшчыну, бо сп. А. Сапежка «Смаленскую губэрню» не аддзяляў ад «Паўночна-Заходняга краю». Аднак пакінем пытаньне Смаленшчыны на пазьней. З вышэй пададзеных слоў «гісторыка» А. Хацкевіча вынікае, быццам-бы апрычоннай Беларусі наагул не існавала, бо ён наагул адмовіўся закрануць пытаньне гістарычнай Беларусі — **Вялікага Княства Літоўскага ці Літвы,** якія былі ўлучаныя ў склад Расейскай імпэрыі, а не «Беларусь». «Гісторыку» А. Хацкевічу павінна быць добра ведама, што тэрмін «Беларусь», «Беларусы» ўзьнік як чыста рэлігійны тэрмін, пазьней выконваў ролю геаграфічнага тэрміну для акрэсьленьня **толькі** ўсходняе часткі Літвы ці сяньняшняе Беларусі, і, бязумоўна, не даводзіцца гаварыць пра ягонае «выкрэсьліваньне з ужываньня». Усьцяж меў сілу нацыянальна-дзяржаўны тэрмін — Літва — што падкрэсьлівалася ня толькі прыватнымі асобамі, напрыклад Міцкевічам, Кастусём Каліноўскім, навет Пушкінам, але й у расейскіх урадавых колах у Петраградзе. Для сьцьверджаньня гэтага факту варта А. Хацкевічу пазнаёміцца хоць-бы з актамі Мураўёва-вешацеля. Пасьля паўстаньня 1863 году, калі з палітычных прычынаў Расейцы «заўважылі», што Беларусы — гэта раптам «те же Русские», яны ўхапіліся за выгадны тэрмін «Беларусь». Да гэтага часу, як праўдзіва заўважае А. Хацкевіч, Беларусы былі для Расейцаў «інародцамі» — проста Ліцьвінамі.

Пазбавіўшы сяньняшнюю Беларусь ейнай гістарычнай асновы, А. Хацкевіч высоўвае наступную расейскую канцэпцыю: «Беларускі народ, як і іншыя народы былой царскай Расеі, атрымаў **права** на самавызначэньне й стварэньне дзяржаўнасьці **толькі** ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі й ажыцьцяўленьня на практыцы ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі... сучасная БССР **упяршыню ў гісторыі** аб'яднала ўсе спрадвеку беларускія землі...» (падкр. наша — П. З.).

Такім чынам пад пяром «гісторыка» А. Хацкевіча зьнікла эпоха Ўсяслава Чарадзея, эпоха Альгерда й Вітаўта, эпоха Скарыны, Цяпінскага, Льва Сапегі, эпоха Кастуся Каліноўскага й «Нашай Нівы», нарэшце эпоха Беларускай Народнай Рэспублікі. Зьніклі таксама бясьсьледна Беласточчына, Віленшчына, Дзьвіншчына, Смаленшчына, Браншчына й г. д. Ленін і Сталін разам з Расейцамі «паклікалі да жыцьця» Беларусь! Як наіўна! Трэба дзівіцца чарадзейнай сіле гэтага Леніна, які «зь нічога» зумеў выгадаваць нацыянальна й дзяржаўна сьпелы народ ды й самога «сьвежа-сьпечанага» Беларуса — гісторыка А. Хацкевіча. Запраўды, пасьля гэтага можна ня дзівіцца цьверджаньням зарубежных чарнасоценцаў, якія імкнуцца даказаць, што савецкія нацыянальныя рэспублікі — гэта «іскусственные созданія».

А. Хацкевіч аўтэрытэтна заяўляе: «...Як вы, відавочна, ведаеце, 1 студзеня 1919 году была створана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.. Першапачаткова, у момант утварэньня, тэрыторыя БССР у адміністрацыйна-гаспадарчых адносінах дзялілася на сем раёнаў: Менскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілеўскі, Гомельскі, Горадзенскі й Баранавіцкі. Пазьней, пры больш дакладным уліку нацыянальнага складу насельніцтва, Смаленскі раён, а таксама Вяліжскі, Невельскі й Сябежскі паветы Віцебскага раёну, у якіх большасьць насельніцтва складалі Расейцы, былі ўключаны ў РСФСР. У верасьні 1939 году беларускі народ узьяднаў свае заходнія раёны... у адзінай Беларускай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве...»

Прыпомнім крыху гістарычных фактаў. Думаем, што А. Хацкевіч крыху азнаёмлены зь дзейнасьцяй Беларускай Сацыялістычнай Грамады й газэты «Наша Ніва». «Буржуазныя»! Што-ж зробіш, калі ў Маскве прынята ўважаць «буржуазным» усё тое, што не зьяўляецца расейскім. У 1917 годзе, пасьля ўпадку царызму, усе беларускія палітычныя партыі й нацыянальна-культурныя арганізацыі стварылі адзіны палітычны цэнтар — Вялікую Беларускую Раду, якая адразу пачала дамагацца ад расейскага Часовага ўраду хоць-бы палітычнай аўтаноміі для Беларусі. Гэтыя намаганьні выявіліся дарэмнымі. Пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту Вялікая Беларуская Рада выдае адозву да беларускага народу, пачынаючы адначасова арганізаваць вайсковыя аддзелы і склікаючы кангрэс. Бальшавікі-ж тым часам, начале зь Мясьнікавым і Фрунзэ скалачваюць свой чыста расейскі «дзяржаўны твор» — так званы Савет Народных Камісараў **Заходняй вобласьці** й фронту. У гэты час Ленін навет ня сьніў пра «сваіх Беларусаў» ды ўсяляк нацкоўваў сваіх агентаў на ўсё тое, што было беларускім. У сьнежані 1917 году ў Менску быў скліканы першы Ўсебеларускі Кангрэс, які й выказаўся за абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Што-ж робяць бальшавікі? Ужываючы савецкі тэрмін, яны «распусьцілі» гэты Кангрэс. У наступным годзе, адкінуўшы варункі Берасьцейскае ўмовы Леніна зь Немцамі, 25 сакавіка Рада Кангрэсу абвяшчае Беларусь незалежнай Народнай Рэспублікай на ўсёй беларускай этнаграфічнай тэрыторыі. А. Хацкевіч тут запярэчыць, ведама, што БНР была справай рук Немцаў. Не ўваходзячы ў спрэчку, зазначым толькі, што гэты «нямецкі твор» чамусьці ня быў прызнаны самымі Немцамі. Яны-ж забаранілі таксама дыпляматычна-палітычную дзейнасьць Рады БНР ды катэгарычна паставіліся супраць арганізацыі беларускай арміі. Тым часам між Бэрлінам і Масквой існавала дамоўленасьць, паводля якое Немцы забавязваліся эвакуавацца Беларусь ды «ня ўмешвацца» ў нутраныя справы Расейскай імпэрыі. Хто-ж быў, такім чынам, нямецкім «агентам»: беларускія «буржуазныя нацыяналістыя» ці Ленін? Наагул-жа гісторыку А. Хацкевічу варта пазнаёміцца з дакумантамі, апублікаванымі апошнімі гадамі, якія выразна выяўляюць сувязь Леніна зь нямецкім Генэральным Штабам, ягоную «нямецкую агентуру».

Гэта факт, што БССР была абвешчаная 1 студзеня 1919 году. Але й у гэтым выпадку гісторык павінен быць больш прэцызыйным. Аднак А. Хацкевіч, выкінуўшы зь гісторыі працэс утварэньня БНР, наагул факт існаваньня БНР, імкнецца захаваць таксама працэс утварэньня й мэтамарфозы гэтае БССР. Стоячы перад фактам існаваньня БНР, 23 сьнежня 1918 году ў Маскве ЦК РКП(б) прыймае пастанову аб стварэньні БССР. Адклікаецца скліканьне VI Паўночна-Заходняй абласной канфэрэнцыі РКП(б), а «беларускі патрыёт» (чысты Расеец) А. Мясьнікаў выклікаецца ў Маскву па дырэктывы. Гэтая канфэрэнцыя зьбіраецца ў Смаленску 30 сьнежня, якая бяз дай прычыны мянуе сябе першым зьездам Камуністычнай партыі савецкай Беларусі, ды асобным маніфэстам 1 студзеня 1919 году абвяшчае ўтварэньне «незалежнай» Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі (ССРБ). Адным словам, быў прыпаднесены «нацыянальны дар» Беларусам. Гэтая ССРБ мелася абняць: Смаленскую, Віцебскую, Магілеўскую, Менскую й Горадзенскую губэрні, а таксама Сураскі, Мглінскі, Старадубскі й Новазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губэрні, Аўгустоўскі павет былой Сувальскай губэрні, Вялейскі павет і часткі Сьвянцянскага й Ашмянскага паветаў Віленскай губэрні. Дзьвіншчына й Віленшчына зь Вільняй крыху раней былі перададзеныя «ўтвораным» гэтак-жа, як і БССР, Латвійскай і Летувіскай ССР. Іншыя ўсходнія беларускія землі, а таксама Гжацкі, Сычаўскі, Вяземскі й Юхнаўскі паветы Смаленскай губэрні заставаліся ў складзе РСФСР. Тым ня менш гэтая БССР ня была ўжо так беднай з тэрытарыяльнага пункту гледжаньня. Аднак...

У канцы студзеня 1919 году ў Маскве высьпявае новы праект — пра зьліцьцё БССР зь Летувіскай ССР і тэрытарыяльнае абрабаваньне Беларусі. На так званым 1-м Усебеларускім зьезьдзе саветаў, скліканым у Менску на 2—4 лютага, праводзіцца першая чыстка бэсэсэраўскага ўраду ад «буржуазных» беларускіх элемэнтаў, а таксама разглядаецца пытаньне «больш дакладнага ўліку нацыянальнага складу насельніцтва», у выніку чаго ад гэтай БССР былі адарваныя ня толькі Смаленская губэрня й частка Чарнігаўскай губэрні, але таксама Віцебская й Магілеўская губэрні. Гэты зьезд вітае прапанову Масквы пра аб'яднаньне абскубленай БССР зь Летувіскай ССР, што й адбываецца 27 лютага 1919 году. БССР скончыла сваё двумесячнае існаваньне. Як сумна, што «гісторык» А. Хацкевіч ня мог заўважыць гэтага факту...

Пасьля няслаўнай гісторыі Літ-Бел ці Летувіска-Беларускай савецкай рэспублікі, другая БССР апавяшчаецца 31 ліпеня 1920 году. Ад **гэтае** даты трэба разглядаць запраўдную гісторыю сяньняшняй БССР. Аднак, перад тым, чым нарадзілася гэтая другая БССР, адбыўся наступны рабунак: 12 ліпеня 1920 году ў Маскве была падпісаная «мірная ўмова» зь Летувай. Каб забясьпечыцца сымпатыяй Летувы, Масква перадае апошняй вялізарныя абшары беларускай этнаграфічнай тэрыторыі на поўнач і захад ад лініі Гараднянкі — Ляшанкі — Сьвіслач — Нёман — Бярэзіна — Ісьлач — Маладэчна — Мядзёл — Дрысьвяты — Друйка. Да Летувы пераходзілі ня толькі Віленшчына зь Вільняй, але Аўгустаў, Горадня, Ліда, Ашмяны, Паставы, Браслаў

**(Заканчэньне на 7-ай бачыне)**

# Саракагодзьдзе „катаржнай рэспублікі“

Ня так даўно савецкая прэса кароткімі нататкамі адзначыла саракагодзьдзе аўтаномнай савецкай рэспублікі Комі. Газэты «Правда» і «Ізвестія» падкрэсьліваюць вялікае эканамічна-культурнае разьвіцьцё рэспублікі, якое яна, быццамбы заўдзячвае «мудрай нацыянальнай палітыцы партыі і братняй дапамозе ўсіх народаў Савецкага Саюзу».

Фразэалёгія савецкай прапаганды пра мудрую нацыянальную палітыку партыі і братнюю дапамогу набірае гэтым разам асабліва цынічнага прысмаку. Асабліва фраза пра братнюю дапамогу гучыць, проста, як зьдзек. За сталінскіх часоў аўтаномная рэспубліка Комі была ведамая, як месца высылкі сотняў тысяч ахвяраў сталінскага тэрору, і канцэнтрацыйныя лягеры густой сеткай пакрывалі гэтую «рэспубліку».

Асабліва дрэннай славай карыстаўся ў Савецкім Саюзе і ў цэлым сьвеце комплекс канцлягероў вакол Варкуты, галоўнага гораду аўтаномнай рэспублікі Комі. У варкпуцкіх канцлягерох у сталінскія часы працавалі як нявольнікі сотні тысяч высланых туды вязьняў розных нацыянальнасьцяў, у тым ліку і дзесяткі тысяч Беларусаў. Дзесяткі тысяч вязьняў загінулі там, будуючы пад аховай энкавэдысцкіх штыхоў, у цяжкіх кліматычных і жыцьцёвых умовах населеныя пункты, шахты, чыгуначныя лініі, па якіх пасьля каціліся транспарты вугалю для ленінградзкай прамысловасьці. На касьцях вязьняў быў пабудаваны горад Варкута.

Пішучы пра дасягненьні аўтаномнай рэспублікі Комі, савецкая прапаганда прамоўчвае трагічную гісторыю гэтых дасягненьняў. Яна ні словам ня прыгадвае аб тым, што бальшыня населеных пунктаў і гарадоў рэспублікі — гэта, фактычна, калішнія канцлягеры, заселеныя часткова нядаўнымі вязнямі, якія атрымалі пасьля сьмерці Сталіна гэтак званую волю, але былі прымушаныя «дабраахвотна» застацца на месцы свае ранейшай высылкі.

Прамоўчвае савецкая прапаганда і той факт, што яшчэ й цяпер на тэрыторыі аўтаномнай рэспублікі Комі існуюць канцлягеры. Туды, прыкладам, былі высланыя тысячы вугорцаў пасьля здушэньня вугорскай народнай рэвалюцыі ў 1956-ым годзе. Туды высылаюць на прымусовыя работы і гэтак званых «спэкулянтаў», «дармаедаў» ды і іншых савецкіх грамадзян, якія так ці інакш не ўкладаюцца ў формы савецкай сыстэмы. Высылаюць у Комі і гэтак званых «палітычных злачынцаў» з краінаў-сатэлітаў. Такім чынам, частка пакінутых канцлягероў папоўнілася на месца звольненых новым запасам таннай працоўнай сілы, які і цяпер «нясе братнюю дапамогу» рэспубліцы Комі.

Савецкая прапаганда прамоўчвае яшчэ і зь іншых прычынаў нядаўную ганебную гісторыю варкуцкіх лягероў. У 1953-ім годзе, у выніку нязносных жыцьцёвых умоваў, у лягерах Варкуты выбухла вялікая забастоўка зьняволеных. Пачалі яе вязьні, якія працавалі найцяжэй — у прымітыўных варкуцкіх вугальных шахтах. Адтуль забастоўка вельмі хутка пашырылася на шэраг іншых канцлягероў Варкуты. І ня гледзячы на тое, што забастоўка была пасьля даўжэйшага часу жорстка здушаная, а ейныя кіраўнікі расстраляныя, яна ўсё-ж пахіснула сыстэму савецкіх канцлягероў. Урад быў прымушаны абвесьціць вялікую амнэстыю і зьмяніць канцлягернае заканадаўства. Але і дасюль ён не зьліквідаваў усіх канцлягероў, гэтай ганьбы людзкой цывілізацыі.

Так у сьвятле фактаў выглядае «братняя дапамога іншых народаў» аўтаномнай рэспубліцы Комі. Сотні тысяч зьняволеных прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў, былі туды сілай загнаныя і прымушаныя працаваць на карысьць савецкай імпэрыі. Само-ж насельніцтва Комі гэтак-жа паняволенае савецкім імпэрыялізмам, як і іншыя нацыянальнасьці Савецкага Саюзу.

---

Край чужы — за веру кара —
Сьнег, мароз ды горы.
Белы сьвет, як чорна хмара,
Заступілі горы.
Край чужы... І ты чужынец
Усім, ня свой здаешся:
Ходзіш скрозь, як той адзінец
Старакостны ў лесе.
Ходзіш ты, ніякай мэты, —
Так, — абы цягацца,
Знаць сабе: жывеш яшчэ ты...
Для чаго спытацца?

Ужо з гэтых радкоў выяўляецца, што тут за «я». Цікава зазначыць, што паэта яго аб'ектывізуе й выражае займем другой асобы «ты». Яно ажыцьцяўляе ў сабе самасьвядомасьць чалавека, выгнанага з роднага краю «за веру» на кару — на кару за веру ў лепшую долю роднага краю. Яно ня ведае, «ці давядзецца быці там, дзе наша ніва». Яно адчувае ў сабе сілы да творчасьці, а пазбаўленае волі: «Я бяз-рукі, я бясьсільны... я бяз волі». Гэта «я», якому засталіся ўцехаю толькі думы, песьні ды ўспаміны, а на сэрцы — туга непамерная ды боль ад немагчымасьці дзейнічаць. Яно як-бы жывым пахована.

Што мне жыцьце, хоць-бы самае краснае?
— Волі ня маю! У няволі жыву.
Гэта нуднае быцьцё уласнае
Сьмерцю страшэннай з болем заву.
(З «Думы ў чужыне»).

Проста жах ахапляе, калі чытаеш гэтыя вершы, што адкрываюць глыбіні перажываньняў выгнаньніка, глыбіні жыцьця, роўнага сьмерці. І дзіву даешся, як сэрца чалавека магло не разарвацца ад такіх перажыткаў. Так, толькі сэрца паэта-рэвалюцыянера, паэта-рабочага магло ўсё гэта зьнесьці. Вось дзе нявычэрпная навука й крыніцы энэргіі для моладзі. Пасьля А. Гаруна разумееш усю глыбіню й значэньне таго, што выражае Ул. Дубоўка такімі словамі ў «Credo»: «песьняй праганяю ўсю жуду». Толькі пасьля гэтага разумееш, што значыць песьня і якую ролю яна адыгрывае ў жыцьці й асабліва беларускага народу. Ня дарма А. Гарун называў яго песьняром.

Дык вось-жа ў Алеся Гаруна «я» зьяўляецца формаю самасьвядомасьці таго чалавека, што мусіў у далёкім Сібіру цярпець кару «за веру», за веру ў рэвалюцыю, за веру ў лепшыя часы для роднага краю. Гэта «я» тых ахвяр, што прыносіліся ў імя вызваленьня і нацыянальнага і сацыяльнага. Безь пераадчуваньняў гэтага «я» не магло-б зьявіцца й таго, што мы знаходзім у Дубоўкі. Бяз душэўнага вопыту А. Гаруна, выражанага ў яго думах і песьнях, не магло выгадавацца й выхавацца «я», такое нязьмірнае, якое, не зважаючы на тое, што «праз прасьцяг хада штодзенная нельга знойдзе», усё-ж такі сьмела пытае: «а дзе-ж льга»? І той верш Ул. Дубоўкі, зь якога гэтыя апошнія словы, канчаецца шматкроп'ем, што набывае значэньне існаваньня яшчэ не раскрытых прасьцягаў, якія носяць імя «льга». Праўда, па зьместу «я», што ў вершах А. Гаруна, багацейшае чым у Дубоўкі, але па аб'ёму якраз наадварот. Першае да другога дачыняецца, як від да роду.

Такім чынам «На чужыне» набывае асаблівае значэньне. На гэтай чужыне было тое, што рабіла асобу нявольнаю, і ёсьць тое, што акоўвае руку яе стальлю. На чужыне ёсьць і тое, што навучае родны край любіць, і тое, што навучае бачыць у родным краі прыгожае, вялічавае, што навучае бачыць і яго нядолю. Ёсьць тут і тое, што абуджае імкненьні да творчасьці і працы ў родным краі, і тое, што родзіць лятуценьні, а ёсьць і тое, што ўчыняе адны толькі мукі. Вось у гэтым спадчыннасьць, калі льга так сказаць, Ул. Дубоўкі й ад А. Гаруна. На чужыне — тое, што абуджае нацыянальную самасьвядомасьць і нацыянальную гордасьць ад дзейнае творчасьці.[49]

У наступным артыкуле пра творчасьць Уладзімера Дубоўкі Бабарэка бярэ Гаруноў верш «Адбітак» з «Матчынага Дару» ды зьвязвае яго з Дубоўкавай паэзіяй:

У Алеся Гаруна ёсьць верш «Адбітак», у якім выказваецца думка аб тым, што факт няведаньня адбіваецца ў пачуцьцях сумам. Верш гэты канчаецца такімі радкамі:

Дзіўлюся я на зораў ясных зьзяньне,
На сьцежкі іх, ўсё тыя-ж, як прад векам,
І сумна мне, і родзіць сум пытаньне:
Нашто пачаўся я ад Бога — чалавекам?

Адгэтуль: радасьць жыцьця эквівалентна знаньню. Пазнаньне-ж ня бывае без змаганьня, а змаганьне — без пакут. А. Гарун кажа: «няма пакуты, дзе няма пазнаньня». І як-бы адказам на выказанае А. Гаруном гучыць першы верш у «Трысьці», што пачынаецца такімі словамі:

Ня дзівіся: ніколі на сьвеце
без змаганьня жыцьцё ня дынаміць.
Што такога, — і зоры сьвецяць,
і зямля, як была пад нагамі.

Калі сум — адваротны бок нязнаньня, то адгэтуль вынікае: пазнавай (а значыць, змагайся) — і будзе радасьць. І калі сум родзіць пытаньне: «нашто пачаўся я ад Бога-чалавекам», то радасьць ня ўзьніме гэтакага пытаньня.

Асалоды ня возьмуць, ня зганяць:
хай сьляды твае зайздрасьцю точаць, —

сьцьвярджае ў тым-жа вершы Ул. Дубоўка.[50]

Яшчэ крыху далей глыбака аналізуецца другі Гаруноў верш з «Матчынага Дару» — «Ідуць гады»:

У А. Гаруна ёсьць верш «Ідуць гады», які прадстаўляе сабою як-бы дыялёг між двума асобамі. Адна, кажучы: «ідуць сабе гады, ідуць... і чалавек за імі», пытае: «Куды цябе яны вядуць і сьцежкамі якімі?». Другая адказвае поўным няведаньнем і заключае: «пачалося гэта, браток, не на мне». Тады першая зноў пытае: «на што, скажы мне, ты жывеш і з думкамі якімі?» Другая адказвае, што, узяўшы сабе настаўнікам прыроду, робіць прысуджаны ёй шлях дарагім і красуецца на радасьць сабе й другім.

Пасьля гэтага сьмешнымі выдаюцца пытаньні, што часта выплываюць у моладзі пасьля першай чаркі «культуры», прыкладам, такія, як «нашто жыць?», «нашто рабіць тое ці іншае?», якія зараз-жа й вырашаюцца ў вадмоўным сэньсе. Жыцьцё не пачалося й не канчаецца на тым, што вось дайшоў чалавек такога пытаньня й вырашыў, што жыцьцё ня мае аніякай цаны. Яшчэ не апазнаны

# Адказ на „Адказ”

(Заканчэньне з 6-ай бачыны)

і іншыя беларускія месты. Адначасова йшоў гандаль з Палякамі за кошт беларускіх земляў і Ленін, за цану «бальшавізацыі» Польшчы, быў ужо гатовы перадаць Палякам ня толькі Беласточчыну, але й іншыя шматлікія беларускія землі на ўсход ад так званай лініі Кэрзона. Праўда, на гэты раз яму ня ўдаўся экспэрымэнт з абозным урадам Дзяржынскага, і Палякі хутка зноў апыніліся каля Менску. Пачаліся новыя торгі, і пасьля падпісаньня так званага Рыжскага трактату з Польшчай, бяз удзелу, ведама, Беларусаў, БССР апынілася толькі ў межах аднэй няпоўнай Менскай губэрні, займаючы тэрыторыю 52.316 км² з насельніцтвам каля 1,5 мільёнаў чалавек. Чаму-ж А. Хацкевіч ня ўспомніў гэтага факту, адказваючы на запытаньне сп. А. Сапежкі?

Нарэшце, на дамаганьне Беларусаў, у 1924 годзе Масква згадзілася прылучыць да гэтай мініятурнай БССР 8 паветаў Віцебскай губэрні, 6 паветаў і 7 воласьцяў Рэчыцкага павету Гомельскай губэрні (раней Магілеўская губэрня) і 1 павет і 3 воласьці Мсьціслаўскага павету Смаленскай губэрні. У 1926 годзе з «ласкі» тэй-жа Масквы да БССР далучаюцца яшчэ астаткі Рэчыцкага павету й цалкам Гомельскі павет былой Гомельскай губэрні. І гэта ўсё — «канчатковы дакладны ўлік нацыянальнага складу насельніцтва». БССР цяпер вырасла да 125.522 км², а ейнае насельніцтва да 5 мільёнаў чалавек.

Мы ведаем, зь якой вялікай помпай Масква падавала «брацкую руку» ў 1939 годзе Беларусам Заходняй Беларусі. Улучаючы гэтыя заходнія землі Беларусі ў склад БССР, тады Вярхоўны Савет БССР запісаў у сваіх актах, што нарэшце БССР **«упяршыню ў гісторыі аб'яднала ўсе спрадвеку беларускія землі»**. Аднак, у 1945 годзе гэтыя «спрадвеку беларускія землі» — Беласточчына й Аўгустоўшчына — зь лёгкае рукі Сталіна зноў перадаюцца Польшчы, бо тут нарэшце запанавала «народная дэмакратыя». На Ялтанскай канфэрэнцыі ў лютым 1945 году Сталін заяўляў: «... Лінія Кэрзона была творам Кэрзона, Клемэнсо й Амэрыканцаў... Расея ня была запрошаная й ня брала ў гэтым удзелу. Гэтая лінія прынятая супраць волі Расейцаў і супраць этналягічных дадзеных. Ленін быў супраць яе. Ён не хацеў аддаваць Беласточчыны Польшчы, аднак лінія Кэрзона аддае яе Польшчы. Мы адступілі ад становішча Леніна. Ці можна жадаць, каб мы былі ў меншай меры Расейцамі, чымся Кэрзон і Клемэнсо?»

Гэтыя словы Сталін выказаў, ня ведаючы яшчэ пра пазьнейшы посьпех так званага Люблінскага часовага польскага савецкага ўраду. Калі-ж гэты посьпех быў запэўнены, дык Сталін адступіў і ад лініі Кэрзона і ўжо на другі дзень на гэтай Ялтанскай канфэрэнцыі ён выказаў жаданьне перадаць «народнай» Польшчы другія абшары беларускай тэрыторыі — 5-8 кілямэтраў на ўсход ад лініі Кэрзона. Пры падпісаньні савецка-польскага пагадненьня 19 верасьня 1945 году гэтай «народнай» Польшчы былі перададзеныя землі БССР ад 10 да 25 кілямэтраў на ўсход ад лініі Кэрзона.

«Гісторык» А. Хацкевіч абыходзіць моўчкі пытаньне Беласточчыны, аднак, спасылаючыся на ягонае асьветчаньне, што «сучасная БССР упяршыню ў гісторыі аб'яднала ўсе спрадвеку беларускія землі», трэба зрабіць выснаў, што Беласточчыну ён уважае польскай. Адносна Віленшчыны ён зазначае: «што датычыцца **Вільнюса** й яго навакольля ... то добра-ж вядома, што яны спакон веку належалі літоўцам ...» Зьдзіўляе, скуль гісторык А. Хацкевіч запазычыў тэрмін «Вільнюс». Гісторыя такога тэрміну ня ведае. Заўсёды была толькі **Вільня.** Ведама, гэтае цьверджаньне А. Хацкевіча вынікае з прынятай ім расейскай канцэпцыі, што гістарычная Літва ці Вялікае Княства Літоўскае былі летувіскай нацыянальнай дзяржавай, а найбольш з таго, што Віленшчына належыць цяпер да Летувіскай ССР. Ён-бы запісаў летувіскім навет Менск, калі-б гэты апошні з тых ці іншых маніпуляцыяў Масквы быў улучаны ў Летуву. Аднак-жа гэты пункт гледжаньня ня толькі адмаўляецца гісторыяй, але й археалёгіяй. Смаленшчыну тым больш ён улучыў у «чыста расейскія». Нічога ня зробіш, тут дзеіць прыгнятальны дух Масквы. Зь Дзвіншчынай тая самая гісторыя, як і зь Віленшчынай. Адным словам, тое, што за межамі БССР — гэта ўсё не беларускае. Застаецца толькі чакаць, калі «гісторык» А. Хацкевіч у вадзін недалёкі дзень абвесьціць і БССР небеларускім. А да гэтага расейскі бальшавізм імкнецца. Аднак хіба А. Хацкевічу ведама, што яшчэ Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя першага выданьня (1930) Смаленшчыну, Дзьвіншчыну, Віленшчыну й Беласточчыну ўважала чыста беларускімі этнаграфічнымі й нацыянальнымі землямі ды яшчэ й цяпер гэткімі іх уважаюць некаторыя расейскія гісторыкі й этнографы.

А. Хацкевіч заўважае: «Наагул трэба падкрэсьліць, што паняцьце граніц паміж свабоднымі й раўнапраўнымі савецкімі сацыялістычнымі рэспублікамі, якія ўваходзяць у вадзіную Савецкую дзяржаву, у пэўнай меры ўмоўнае. У СССР вось ужо больш сарака год як ліквідаваны сацыяльны й нацыянальны прыгнёт... усе грамадзяне, незалежна ад іх нацыянальнасьці ... раўнапраўныя ...» Мы аднак далёкія ад таго, каб прыняць гэты «аптымізм» «гісторыка» А. Хацкевіча. Думаецца, што ён і сам ня ўпэўнены ў гэтым, бо сам адчувае гэтую «раўнапраўнасьць» на кожным кроку: ў дасьледваньні, прыкладам, гістарычнага мінулага Беларусі, дзе мусіць падганяць усё на расейскі капыл; ды цяпер наагул гэтае гістарычнае мінулае ўважаецца за «анахранізм»; у моўнай практыцы, у культуры й г. д. Што-ж да гэтага «ў пэўнай меры ўмоўнага», дык «гісторык» А. Хацкевіч вельмі-ж крывіць душой. Мы бачылі на прыкладзе абрэзваньня й даточваньня БССР, як гэтае «паняцьце межаў» вельмі жывучае. Дарэчы, тут трэба зьвярнуць увагу А. Хацкевіча хоць-бы на гэты малаважны мамэнт: чаму, напрыклад, Усходняя Прусія ня была прылучаная да БССР ці да Летувіскай ССР, зь якімі яна вяжацца геаграфічна й эканамічна, але сталася ўлучаная ў склад РСФСР, зь якой яна ня мае супольных межаў?

Падыходзячы да пытаньня насельніцтва, А. Хацкевіч адкідае «прэтэнзіі» сп. А. Сапежкі да Смаленшчыны й г. д. Ён бярэ толькі межы сяньняшняе БССР. Аднак і ў дадзеным выпадку паказаў ён сваю няздольнасьць адказаць на пытаньне, «дзе дзеліся людзі беларускія». Ён піша: «... Паводля першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі 1897 году, на які вы спасылаецеся, на тэрыторыі пяці беларускіх губэрняў (Менскай, Магілеўскай, Віцебскай, Горадзенскай, Віленскай) пражывала 8 мільёнаў 518 тысяч 247 чалавек, зь іх Беларусаў — 5 мільёнаў 308 тысяч 420 чалавек... Паводля ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1959 году, насельніцтва Беларускай СССР складае 8 мільёнаў 60 тысяч чалавек ... Нягледзячы на вялікі штогадовы прырост насельніцтва Беларускай рэспублікі, яно ўсё яшчэ не перавысіла даваеннага ўзроўню ...

Як бачым, паводля самога А. Хацкевіча, насельніцтва ягонай «этнаграфічнай» Беларусі за гэтыя 62 гады (1897—1959) ня толькі што не павялічылася, але зьменшылася. Чым-жа абгрунтоўвае гэты сумны факт гісторык А. Хацкевіч? Ахвярамі другой сьветавай вайны! Так, ахвяры гэтай вайны вялізныя для беларускага народу — каля 2 мільёнаў чалавек, але няўжо-ж за 62 гады мелася толькі прыбыць на тэрыторыі БССР гэтыя 2 мільёны чалавек? Вось тут і заўважаецца «задні ход» А. Хацкевіча. Каб лепш выкруціцца з палажэньня, ён наагул не называе агульнага ліку даваеннага насельніцтва БССР, але трэба думаць, што бярэ за зыходны пункт паведамленьне Цэнтральнай Статыстычнай Управы СССР з 1959 году, паводля якога ў 1939 годзе ў БССР налічвалася як-бы 8.910.000 чалавек. Але-ж і тут загвостка: ад 1897 да 1940 году насельніцтва на тэрыторыі БССР узрасло такім чынам толькі на 392.000 чалавек! Гэта за 23 гады! Назваць-жа запраўдны лік даваеннага насельніцтва БССР — 10.500.000 чалавек — ён ня меў права, бо Масква, з мэтай захаваньня ад народу вынікаў сваей народазабойчай палітыкі на Беларусі, сьведама зьліквідавала апошнюю цыфру, падганяючы яе да вынікаў перапісу 1959 году. Таму ягонае асьведчаньне, што цяпер насельніцтва БССР «яшчэ не перавысіла даваеннага ўроўню», павісла ў паветры. Калі гісторыку А. Хацкевічу цяжка разабрацца ў гэтай статыстыцы, дык тут мы дадамо пару лічбаў. Да 1956 году ўся савецкая статыстычная літаратура была згодная ў тым, што ў 1920 годзе ў БССР жыло 10.500.000 чалавек. Ведама, у параўнаньні з 1897 годам, гэтая колькасьць таксама вельмі сьціплая, але ня трэба забывацца на чысткі часоў «наццэмаўшчыны», так званай «калектывізацыі», затым «яжоўскія» чысткі й чысткі «заходніх братоў-Беларусаў» у 1939—1940 гадах. Прадбачваючы катастрафальныя вынікі новага перапісу, у 1956 годзе Цэнтральная Статыстычная Ўправа СССР паведаміла што ў 1939 годзе ў БССР налічвалася толькі 9.200.000 насельніцтва, праўда, зазначыўшы, што ў гэты лік не ўваходзяць Беларусы Беласточчыны, аддадзенай Польшчы. У 1957 годзе зноў наступіла спраставаньне, і гэтым разам **насельніцтва БССР 1930 году «зьніжылася»... да 8.275.000 чалавек!** Гэтую маскоўскую махінацыю адкінуў навет першы сакратар ЦК КП БССР К. Мазураў, паведамляючы ў 1960 годзе на XV сэсіі Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў, што перад вайной БССР налічвала звыш 10 мільёнаў чалавек.

Значыцца, адкінуўшы Беласточчыну й каля 2 мільёнаў ахвяраў другой сьветавай вайны, у 1945 годзе насельніцтва БССР мелася складаць каля 8 мільёнаў чалавек. У 1959 годзе яно зноў-жа мела толькі 8.055.000 чалавек. А дзе натуральны прырост апошніх 15 гадоў? «Гісторыку» А. Хацкевічу трэба было-б проста сказаць, што гэты прырост зьнік у пасьляваенных сталінскіх чыстках, а таксама ў хрушчоўскіх «дабраахвотных пасяленьнях» у Сібіры й Казахстане, дзе цяпер будуюцца «асновы камунізму». Навет паводля статыстыкі 1959 году ў РСФСР жыве 844.000 Беларусаў, а ў Казахстане — 107.000. Ня думаем, што гэтыя 844.000 чалавек з РСФСР паходзяць з Смаленскай вобласьці, бо, паводля й самога А. Хацкевіча, Смаленшчына зьяўляецца «чыста расейскай зямлёй», і ў дадзеным выпадку Расейцы напэўна патурбаваліся, каб яны не называлі сябе Беларусамі.

А. Хацкевіч канчае свой «Адказ» сп. А. Сапежку гэтак: «Цяпер вам, наш чытач А. Сапежка, і іншым эмігрантам, думаецца, будзе зразумелым, куды дзяваліся беларускія людзі. Дарэчы, з гэтым пытаньнем раю зьвярнуцца да Астроўскага, Абрамчыка, Станкевіча й усіх тых, хто дапамагаў гітлераўскім катам фізычна зьнішчаць беларускі народ, а цяпер верна служыць сваім новым гаспадарам».

Ня можам сказаць, ці задаволены гэтым адказам «гісторыка» А. Хацкевіча сп. А. Сапежка. Думаем, што не. А. Хацкевіч нічога новага не дадаў і не адняў да й ад ведамай савецкай псэўдаінфармацыі. Мы жадалі-б яму вольнага доступу да сакрэтных маскоўскіх архіваў. У іх ён знайшоў-бы, бязумоўна, адказ, куды «дзяваліся беларускія людзі». Знайшоў-бы ён таксама аналёгію між гітлераўскімі й маскоўскімі катамі на Беларусі.

**П. Залужны**

# Бі камунізм, ратуй вольную думку

**ВП. Рэдакцыі:** У парадку дыскусіі прашу зьмясьціць у «Б-не» мой адказ сп. Язэпу Мацкевічу на ягоны адкрыты ліст з № 36-га.

☆

Загаловак гэтага артыкулу ўзяты мною зь ліста ў Рэдакцыю сп. Язэпа Мацкевіча, зьмешчанага ў «Б-не» 3 верасьня г. г. Такім клічам канчаецца ягоны ліст, выказваючы шмат шчырых прызнаньняў ды нездавальненьне так з агульнага кірунку нашай газэты, як і з таго, што пасьля выступу сп. Мацкевіча на сёлетняй Мюнхэнскай канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР. «Б-на» зацеміла, што ён «прорасейска» настроены.

Сп. Мацкевіч з свайго боку папракае «Б-ну» й ейных супрацоўнікаў у нацыяналізьме ды прысланяецца клічам, пастаўленым намі, як загаловак.

Пэўна-ж, ніхто не аспрэчваў і не аспрэчвае, а «Б-на» не адставала ў тым, што сучасны камунізм творыць паважную пагрозу для ўсяго сьвету. Але хіба сп. Мацкевіч ня з тых наіўных, што разумеюць камунізм, як толькі ідэялёгію, што затручвае сьведамасьць вольных людзей ды вядзе да пераваротаў ды паняволеньня вольнай думкі чалавека ў выніку ўстанаўленьня ўлады камуністычнай партыі. Ня было-б маскоўскага цэнтру — гэтага апэрацыйнага штабу сусьветнай небясьпекі, ня было-б ваеннай, стратэгічнай і эканамічнай базы для яе, а што найважнейшае — падтрымкі яе Расеяй і расейскім народам, які выпеставаў уласны імпэрыялізм ад часоў тварэньня «III Рыму», а цяпер авеяны камуністычным мэсіянізмам і ўзброены камуністычнай стратэгіяй і тэхнічнымі дасягненьнямі, — хто-б там зьвяртаў увагу на самую ідэялёгію камунізму? Ці-ж мала было ўсякіх утапічных тэорыяў і ідэялёгіяў? Каго хвалявала справа, што нехта недзе не прызнае прыватнай уласнасьці ды вучыць, што шчасьце чалавека ў калектыўным сужыцьці й працы? Нездарма пасьля другой сусьветнай вайны Сталін першую падзяку за выратаваньне бальшавіцкай сыстэмы ад пагібелі сьціраваў пад адрысам расейскага народу!

А ці толькі камунізм — забойца вольнай думкі чалавека? Магчыма, майстры сучаснага камунізму давялі машыну паняволеньня людзей і народаў да дасканаласьці. Але ня менш наглымі й зьверскімі ў здушэньні свабоды чалавека выявіліся таталітарыстыя й дыктатары з антыкамуністычнага лягеру. Якая розьніца чалавеку, калі яго будзе перасьледваць, гнобіць, душыць камунізм, фашызм, ці іншы таталітарызм? Ад таго ці іншага колеру яму ня будзе лягчэй. Калі-б толькі ў гэтым была небясьпека для свабоды чалавека, то сп. Мацкевічу трэба было так сфармуляваць свой кліч: «бі таталітарызм і дыктатуру, ратуй вольную думку!». Але відаць, справа ня ў гэтым, бо сам сп. Мацкевіч прызнаецца, што на ягоную думку, таталітарызм і нацызм быў меншым злом за бальшавіцкі камунізм, які ён назваў ворагам № 1. У чым справа? Ці ня таіцца ў выказваньнях сп. Мацкевіча супярэчнасьць між тым, што ён думае, а што выказвае?

Разважым глыбей ягоныя думкі. Сп. Мацкевіч кажа, што ён уважліва чытае «Б-ну» таму, што ў ёй знаходзіць больш інфармацыяў аб краіне, якая зьяўляецца таксама ягоным родным краем. Вельмі прыгожа! Але тут зараз-жа дадае: «прызнаюся, у шмат якіх выпадках не магу згадзіцца зь ейнымі («Б-ны») паглядамі,

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

ўвесь вопыт вякоў. У моладзі не пераажыты ўсе вякі, уся бесконцавая адвечнасьць. Ды ці можна ўсё гэта перажыць у форме, якая мае, як кажа Я. Купала, «пачатак, бытнасьць і канец»? І сколькі мудрасьці, глыбокай мудрасьці ў словах другой асобы ў вершы А. Гаруна, якая кажа: «пачалося гэта, браток, не на мне», і якая бярэ сабе настаўнікам «і лес, і траву, крыніцы й кветкі, і цемру, і сьвет, і месяц, і зоры, і сонца прывет», словам, тое, пра што Янка Купала сказаў: «ўсё да сэрца штось гавора, усюды бачу моц жыцьця», і што вучыць хараству і змаганьню! Сапраўды, народная мудрасьць! Якая моц жыцьця! Яго сіла б'ецца нявычэрпнаю крыніцаю ў гэтай асобе. Бо ясна, калі ўсё «пачалося не на мне», калі ўсё жыло адвеку й жыве цяпер (дый будзе жыць), то значыць, ёсьць нешта мацнейшае за саму, навет, «сьмерць», ня кажучы ўжо пра такія пытаньні, як «нашто жыць?» (у сэньсе «ня варта жыць»).[51]

Нарэшце, вызначаючы Гарунову творчасьць як адзін з вытокаў Дубоўкавае творчасьці, крытык спыняецца й на высьвятленьні сацыяльнага мамэнту — г. зв. «сацыяльнага эквіваленту» Гаруновае паэзіі:

> Калі нацыянальнае ў творчасьці Ул. Дубоўкі ад Я. Купалы, то сацыяльнае ад А. Гаруна ў першую голаў. Як для А. Гаруна сацыяльнае было ў першую чаргу клясавым, так яно і ў творчасьці Ул. Дубоўкі. Для А. Гаруна ў гэтым выпадку асноўным было тое, што выражана ў вершах «Думы на чужыне» —
>
> Беднасьць — ня гора саўсім мне бясскарбнаму,
> Я багацей, замажней за другіх.
>
> Гэта багацьце для Гаруна зьмяшчалася ў працы рук скарэлых, гэта багацьце бяз грошай, бяз золата для яго там,
>
> ... дзе пад націскам роднага молата
> жыцьцё куецца у глыб і ў шыр.
>
> Клясава-пралетарская сьведамасьць, як характар сацыяльнага духу твораў А. Гаруна, выражаецца яшчэ і ў тым, што Гарун адрозьнівае сапраўдных прыяцеляў народу працоўнага ад ілжывых, якія прыкрываюцца прыгожымі «рэвалюцыйнымі» лёзунгамі. Гэтаму сьветкаю вершы «Юдам», «Муляру», «Эх, сягоньня ў гэту ночку», «Хто сказаў: і я з народам» і інш. Сацыяльна-клясавае ў А. Гаруна ў тым адказе, які ён дае на гэтае пытаньне й які зьяўляецца як-бы прадказаньнем жыцьцёвага разьвязаньня яго ў рэвалюцыі:
>
> Устануць, рушаць: Прэч з дарогі!
> Хто нам хоча заступіць?
> Мы пайшлі, мы, люд убогі.
> Усё ўзяць ці ўсё згубіць.
>
> Вось гэтыя думкі аб багацьці бясскарбнага пад націскам молата, аб багацьці ў паўстаньні «ўзяць усё ці ўсё згубіць» А. Гарун сьцьвярджае фактам свае творчасьці ў той час, калі быў адарваны ад непасрэднай працы сярод работнікаў і цярпеў «за веру кару» ў далёкім Сібіру. Сам «бясскарбны», ён стварае мастацкія каштоўнасьці вялікай вартасьці і тым самым багаціць беларускую мастацкую літаратуру, а цераз гэта й культуру наагул. Вось дух гаруновага сацыяльнага ў клясавым разрэзе, паглыблены рабочаю клясаю ў вопыце рэвалюцыяў, і прасякае творчасьць Ул. Дубоўкі.[52]

Дзеля гэткага «сацыялістычнага эквіваленту» Гарунова творчасьць мусіла-б быць вельмі каштоўнай для бальшавікоў, каб толькі яны запраўды й усюды кіраваліся марксызмам, а ня іншымі меркаваньнямі, аб чым для дадзенага выпадку ўжо досыць гаварылася намі.

Мы падавалі тут гэткія абшырныя выпіскі з выказваньняў Бабарэкі таму, што й дасюль яны маюць вызначальную вартасьць і для разуменьня Гаруна і для дасьледаваньня ўсяе нашае літаратуры, а тымчасам застаюцца няпрыступнымі чытачу й па гэты й па той бок зялезнае заслоны без найменшае надзеі на належную «рэгабілітацыю» іх ды іхнага аўтара — неперавышанага дасюль у глыбіні суджэньня беларускага крытыка — на тым баку.

Узьняцьце Гаруна на шчыт Бабарэкам і «Узвышшам» наагул бясспрэчна прычынілася да ўздыму цікавасьці да ягонага творства й напэўна ўплыло калі не на самую ідэю, дык у кажным разе на ход рыхтаваньня акадэмічнага выданьня ягоных твораў Беларускай Акадэміяй Навук, што вылучыла на гэта адмысловую камісію ў складзе старшыні акадэміка праф. І. Замоціна ды сяброў праф. А. Барычэўскага, М. Пятуховіча ды Н. Мачульскага. Адзін з гэтых сяброў, на якім легла асноўная частка працы, праф. А. Барычэўскі, проста сьледам за Бабарэкавымі артыкуламі ў тым-жа часапісе «Узвышша» апублікаваў свой літаратуразнаўчы нарыс пра «Матчын Дар»,[53] у якім ужо напачатку, зацытаваўшы Бабарэку, адзначыў пабуджальнае дзеяньне «гарунізму» гэтага апошняга на напісаньне гэнага нарысу; нарыс праф. Барычэўскага, адзіны ў сваім родзе дасюль, даецца далей у нашым выданьні, і таму мы на ім больш тутака ня спыняемся.

З другога боку, у камуністычных колах, асабліва з набліжэньнем «антынацдэмаўскае» кампаніі, пачалі цікавіцца Гаруном з чыста палітычнага боку ягонае біяграфіі. Цікавасьць гэтая знайшла сваё адлюстраваньне ў нарысе аднаго зь беларускіх нацыянал-камуністых, Р. Шукевіча-Трацьцякова — «Сьляпая любоў загубіла» (зьявіўся на балонах літаратурнага дадатку да газэты «Беларуская вёска» — «Чырвоны сейбіт»), дзе Гарун браўся пад абарону ў выразным абліччы нападак на ягоную палітычную біяграфію ў бальшавіцкіх кулюарах:

> Шчырая, глыбокая любоў часта бывае сьляпой. Такой была й любоў Гаруна к роднай Беларусі, хоць з самым чортам, ня тое, што з панам Пілсудзкім, гатоў быў ён заключыць саюзы, каб толькі бачыць Беларусь — ня мужычую, рабочую, а якуюсь іншую, буржуазна-дэмакратычную. І бясслаўна загінуў Гарун. Не дзеля суду й абвінавачаньня ўспамінаем мы сяньня няшчасны лёс здольнага паэты, але адарванага ад палітыкі й жыцьця старога рэвалюцыянера, а дзеля навучаньня. На абмылках мінулага вучымся мы. Няхай-жа паслужаць абмылкі жыцьця Гаруна навукаю ўсім ня маючым практыкі палітыкам, усім тым, хто цалкам ці часткай зьбіраецца пайсьці па яго шляху.[54]

(Далей будзе)

# Бі камунізм, ратуй вольную думку

(Заканчэньне зь 7-ай бачыны)

а навет з асноўным кірункам... ён нацыяналістычны».

Не падабаецца яму й прадстаўляньне гісторыі нашай мінуўшчыны, асабліва Вялікага Княства Літоўскага, на старонках «Б-ны». Вось тутака, думаем, сутнасьць усяе канцэпцыі сп. Мацкевіча. Ён не знаходзіць таго, чаго хацеў-бы знайсьці. А хацеў-бы вось чаго: каб сучасная пераймальніца спадчыны В.К.Л. — Беларусь была адбіцьцём рамантычнага ўяўленьня В.К.Л., якім яго хочуць прадставіць некаторыя выхадцы з нашых зямель і якія сёньня гуртуюцца ў Лёнданскім таварыстве «Зем всходніх». Вось гэтыя людзі думаюць катагорыямі ня тых колаў, якія ў мінуўшчыне кіравалі В.К.Л., але катагорыямі тых паноў 19 ст. якія ахвотна калябаравалі з царскім расейскім рэжымам, каб толькі зьберагчы свае маёнткі, свае выгады, сваю сваволю, ня дбаючы пра лёс усяго народу, пра ягоную будучыню, пра ягоную самастойнасьць і незалежнасьць. Для іх гэта ўсё — нацыяналізм, нявыгадны іхным уяўленьням Беларусі, як панадворка з Усходу на Захад і з Захаду на Ўсход. У гэтым зусім шчыра прызнаецца сп. Мацкевіч: «паводля майго перакананьня — кажа — на бацькаўшчыну складаюцца людзі й пэйзаж». Усёроўна, якія людзі, — прадаўжае, — «Беларус, Летувіс, Паляк, Жыд, Расеяц, Татарын». Якая розьніца для прадстаўніка такой псыхалёгіі? Каб толькі жылі ў згодзе й былі паслухмяныя пануючым свавольнікам. Для іх галоўным ёсьць пэйзаж краіны, прыгожы, цудоўны пэйзаж, поўны цікавасьці й рамантыкі. Дадаймо яшчэ: прыгожы пэйзаж краіны мае асаблівы чар у часе слаўных паляваньняў на цецярукі ці на буйнейшую зьвярыну з знамянітым літоўскім бігасам і напіткамі, ці ў часе бясклопатных адведваньняў суседзяў і знаёмых у розных прыгожых маёнтках! Вось дзе бацькаўшчына! А Беларусы ў сваёй свабоднай газэце гавораць пра іншую бацькаўшчыну, якую яны ўяўляюць, як твор і ўласнасьць суцэльнага народу, які хоча быць вольным, самастойным гаспадаром на сваёй зямлі, які сьмяротна дасьледзіў ярмо сваіх суседзяў і далейшых наезьнікаў, які стагодзьдзямі найлепш вывучыў «дабрату» Маскоўшчыны, што патаптаўшы В.К.Л. і усе спробы вызваленьня ў навейшую пару, маршыруе цяпер у баёвым паходзе на падбой сьвету з заманчывай камуністычнай прапагандай. А калі газэта «Б-на» як ворган беларускай эміграцыі, паказвае рэальна пальцам на галоўнага свайго ворага й адначасова галоўнага ворага ўсяго чалавецтва, калі кліча сваю эміграцыю і народ да высілкаў, каб ськінуць няволю ды стварыць на сваёй зямлі сваю незалежную дзяржаўнасьць — сп. Мацкевіч моршчыцца, ганьбуе нацыяналізм. Не, спадару, — гэта не нацыяналізм. Гэта прыродны інстынкт кажнага народу да самабытнага, уласнага жыцьця. Бацькаўшчына — гэта ня людзі й пэйзаж, як Вы называеце. Гэта, выбачайце, не таўкучка, выгадная для некага. Народ-жа — гэта арганічная цэласьць усіх мінулых, сучасных і будучых пакаленьняў, злучаных ня толькі тэрыторыяй (з прыгожым, скажам, пэйзажам), але шматлікімі духовымі вязямі, супольнай культурай, псыхікай, супольным інтарэсам ейных сяброў, якія хочуць выявіць сваю духовую індывідуальнасьць ды жыць сваім розумам на сваёй зямлі ў суседзтве зь іншымі падобнымі этнічнымі цэласьцямі.

Сп. Мацкевіч не пачуваецца зьвязаны з сваім родным краем і сваім народам адказнасьцяй за ягонае вызваленьне, за ягонае будучае жыцьцё, а выбіты, так сказаць, зь сядла гістарычнымі падзеямі, прысланяецца касмапалітызмам, ставіць перад сабой не інтарэсы й ідэалы свайго паняволенага народу, але чалавека абстрактнага, якому быццам пагражае камунізм. Ды гэта своеасаблівая дэмагогія. То-ж камунізм праводзіцца таксама людзьмі, адумыснай арганізацыяй падабраных людзей, каб панаваць над іншымі. Каму свабода, а каму няволя!

Таму зусім справядліва паняволеныя Масквой народы паказваюць вольным народам, дзе крыніца зла, дзе тоіцца небясьпека для ўсіх народаў (а не для «чалавекаў») — паказваюць на Маскву, як на штаб злачыннага расейскага імпэрыялізму. Біць камунізм наагул — гэта страляньне на вецер. Трэба біць у сэрца камунізму — у Маскву, выкрываючы ўсе ейныя махінацыі ў сусьветным маштабе.

Калі сп. Мацкевіч далучыўся да расейскіх эмігрантаў, якія шуміху робяць вакол абстрактнага змаганьня з камунізмам, а цешацца з дасягненьняў бальшавіцкай Масквы ў стварэньні магутнай імпэрыі ды так варожа ставяцца да думкі падзелу гэтай імпэрыі, — гэта таксама шмат гаворыць. Ня важна, што сп. Мацкевіч кажа: «я не прорасеяц». Мы верым, што ён хацеў-бы, каб землі Вялікага Княства Літоўскага ня былі залежныя ад Масквы. Але калі ён падумае, што ня вернеш мінулага, што з катла, дзе было, як ён кажа, — «палянізаваньне, русыфікаваньне, літвінізаваньне, украінізаваньне і — беларусізаваньне» ня ўдаецца наварыць рамантычнага паляўнічага бігасу, дык хацелася-б яму, каб паняволеныя народы: беларускі, украінскі, грузінскі і г. д. не знайшлі падтрымкі ў вольных народаў у справе іхнага вызваленьня, каб заіснаваў у новай вайне стан 1918 году, калі мог-бы паўтарыцца гандаль усходнімі землямі між Польшчай і іншымі пад старую песеньку: «за нашу й вашу вольнасьць».

Мы не абвінавачваем сп. Мацкевіча ў эндэцыі, як гэта рабіла «Крыніца». Мы абвінавачваем яго ў тым, да чаго ён сам прызнаецца — у касмапалітызьме, у вадыходзе ад свайго народу, у апартунізьме, калі ён хоча адвярнуць увагу сьвету ад запраўднай крыніцы зла й небясьпекі, кумякаючыся з расейскімі эмігрантамі. Ці ня лепш было-б сп. Мацкевічу пераглядзець сваю памылковую канцэпцыю ды ўзяцца за абарону таго народу, зь якога ён выйшаў, ськіроўваючы сваё творчае пяро ў сэрца й апору сучаснай сусьветнай небясьпекі?

**Мікола Волаціч**

Чыкага, верасень 1961 г.

# Зь дзейнасьці Выдавецтва „Бацькаўшчына“

У інтэнсыўнай раней дзейнасьці Беларускага Выдавецтва «Бацькаўшчына» на працягу двух апошніх год наступіў перарыў, выкліканы галоўным чынам адсутнасьцяй фінансавых сяродкаў. Апошняй кніжкай, з чаргі 16-ай, выдадзенай нашым Выдавецтвам, быў збор твораў клясыка беларускае літаратуры Максіма Багдановіча «Вянок», якая выйшла ў сьвет у канцы 1959 году, хоць і была датаваная 1960 годам.

Апошнім-жа часам Выдавецтва зрабіла асаблівыя натугі й правяла некаторыя мерапрыемствы, якія стварылі сьціплыя магчымасьці ўзнавіць і ажывіць ягоную выдавецкую дзейнасьць. Гэтак, кіраўнік Выдавецтва д-р Ст. Станкевіч, падчас свайго наведваньня ў жніўні-верасьні 1960 году беларускіх асяродзьдзяў у ЗША й Канадзе (Нью Ёрк, Саўт Рывэр, Нью Брансьвік, Чыкага, Кліўлэнд, Дэтройт і Таронта) сабраў на падпісныя лісты сярод пражываючых там суродзічаў адпаведную суму грошаў, якія былі прызначаныя, як і папярэджвалася падчас іхнага зьбіраньня, на выданьне літаратурных твораў чацьвертага — пасьля Купалы, Коласа й Багдановіча — выдатнага нашаніўца Алеся Гаруна. Збор ягоных твораў пад назовам **«Матчын Дар»** ужо друкуецца й хутка пабачыць сьвет. Гэта будзе старанна й прыгожа выдадзеная кніжка разьмерам звыш 200 бачынаў друку сярэдняга фармату.

Наступнай кніжкай, якая ўжо друкуецца й яшчэ ў бягучым годзе пабачыць сьвет, зьяўляецца вялікая аповесьць ведамага беларускага эміграцкага журналістага й пісьменьніка Канстанціна Акулы пад назовам **«Змагарныя Дарогі»**, якая выдаецца вылучна коштам самога аўтара.

У кнізе ў вобразнай літаратурнай форме адлюстроўваецца аўтэнтычная гісторыя сяброў Школы Камандзераў Краёвай Абароны ў Менску й іншых беларускіх вайсковых фармацыяў Другой сьветавай вайны, апісваюцца як у сэньсе вайсковым, гэтак і ў першую чаргу ў сэньсе ідэйным «змагарныя дарогі» ад Менску ў мамэнт эвакуацыі летам 1944 году, цераз пункты, што вялі іх на Захад, далей Нямеччыну, Францыю й Італію, каб закончыць гэтую сучасную Адысэю ў Ангельшчыне ў 1945 годзе, дзе яны, у моцна працярэблянай сваей часьці, напасьледак апынуліся пасьля заканчэньня вайны. Апісаньні гэтых падзеяў, актыўным удзельнікам якіх быў і сам аўтар, маюць нятолькі бясспрэчную літаратурную цэннасьць, але й дакумэнтальна-гістарычную. А таму кніжка Канстанціна Акулы зьявіцца цэнным укладам у творчай дзейнасьці беларускай эміграцыі й будзе цешыцца вялікім прызнаньнем чытачоў, галоўна беларускіх вайскавікоў, якія ў ёй знойдуць шмат ім ведамага й імі самымі перажытага.

Напасьледак трэйцім выданьнем, якое цяпер інтэнсыўна падгатаўляецца й пабачыць сьвет у пачатку 1962 году, будуць навуковыя **«Запісы»** Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, якія, заплянаваныя, як гадавік, маюць стацца пэрыядычным беларускім навуковым выданьнем. Першая кніга «Запісаў» будзе абыймаць каля 200 бачынаў друку вялікага фармату й зьмяшчаць у сабе навукова-дасьледавальныя працы з розных галінаў беларусаведы беларускіх вучоных на эміграцыі. Вялікая патрэба такога выданьня, асабліва пасьля таго, калі былі спыненыя беларускія навуковыя выданьні мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР, бясспрэчная. Як можна судзіць з артыкулаў, якія ўжо прысланыя ў Рэдакцыю, «Запісы» будуць адказваць усім умовам стаўляным навуковым выданьням на Захадзе.

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

### АБВЕСТКА

**Увага, Беларусы Мюнхэну і ваколіцаў!**

**У нядзелю, 15 кастрычніка сёлета, Яго Эксцэленцыя Біскуп Часлаў Сіповіч адслужыць сьв. Літургію ў касьцёле сьв. Анны (Ст. Анна Кірхэ, даезд трамваямі 4, 20, 37 да Макс II дэнкмаль). Пачатак Багаслужбы а 12-тай гадзіне. Пасьля сьв. Літургіі Біскуп Часлаў Сіповіч будзе рады сустрэцца з сваімі суродзічамі ў залі бібліятэкі імя Стывэнса, Тыршштрасэ 11/2, і падзяліцца сваімі ўражаньнямі з свае архіпастырскае дзейнасьці.**

# Зь беларускага жыцьця ў Вялікай Брытаніі

Паміж 18 і 28 жнівеня а. прат. д-р Аўген Смаршчок, сьвятар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы з Бэльгіі, адведаў асяродкі Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Пачынаючы гэтым разам ад Брадфорду, а. Аўген адзначыў урачыста сьвята Спаса, адслужыўшы Сьвятую Літургію з пасьвячаньнем садавіны й Вячэрню ў Капліцы Беларускага Дому. Усе прысутныя ня ўтойвалі свае радасьці з Багаслужбаў у гэтае вялікае сьвята, а таксама з аднаўленьня іх у гэтай царкоўцы — хоць маленькай, але ўласнай — у месцы пачатку плённай душпастырскай працы а. прат. Александра Крыта. Ладная грамадка дзетак і дарослых прыняла Сьв. Прычасьце.

Назаўтра, у нядзелю 20 жнівеня, поўным аўтобусам, з шматлікімі дзеткамі, беларуская калёнія ў Брадфордзе з госьцем-духаўніком начале адведала асяродак Манчэстэр. Там нас радасна прывіталі ў Беларускім Доме. Божая Служба адбылася ў англіканскай царкве недалёка ад Беларускага Дому. Вялікае дзякуй належыцца а. прат. Захарыю, казацкаму дэкану ў Вялікай Брытаніі, за ўпрыгожаньне Багаслужбы ягоным вельмі добрым хорам.

Пасьля Сьв. Літургіі, пасьвячаньня садавіны й «мнагалецьця», сьвятар прывітаў беларускую грамаду й падкрэсьліў, што ён прысьвячае вялікую ўвагу беларускай эміграцыі ў Вялікай Брытаніі ў сваім плянаваньні часу, і будзе адведваць яе так часта, як дазволяць яму ягоныя магчымасьці. Трэба адзначыць, што на працягу сямі месяцаў, г. зн. ад часу ад'езду ў Задзіночаныя Штаты айца Александра, а. Аўген ужо тры разы адведаў Ангельшчыну. Гэтым разам ён плянаваў наведаць усе асяродкі з мэтай бліжэйшага асабістага азнаёмленьня зь мясцовымі абставінамі.

Пры супольнай бяседзе запраўды пабеларуску прыймалі нас Беларусы Манчэстэру. Мілую атмасфэру не папсавалі навет і правакатарскія пытаньні няпрошанага гасьця сп. Басяцкага. І з гэтым госьцем разьвітаўся а. Аўген як сьвятар, а ў сваім слове ён дзякаваў перш за ўсё сп. Я. Міхалюку з Брадфорду, сп. сп. Яськевічу й Віценчыку, адміністрацыі Беларускага Дому ды працавітым жаночым рукам, безь якіх, як ведама, радасьць ня поўная. Адмысловыя словы падзякі а. Аўген сьціраваў да а. прат. Захарыя за братнюю духовую апеку над вернікамі БАПЦ і іхнымі дзеткамі.

У міжчасе сп. Яськевіч настаўнік беларускіх дзяцей, прадставіў а. Аўгену некалькі сваіх вучняў, якія нязгорш, хоць і з чужым акцэнтам, прадэклямавалі некалькі беларускіх вершаў.

Айцец Аўген адведаў і Шэфільд, дзе таксама жыве група Беларусаў, а між імі й родны брат паэткі Ларысы Геніюш, сп. Аляксей Міклашэвіч. Трэба адзначыць, што гэта быў якраз час летніх адпачынкаў, і таму было цяжка скантактавацца з усімі нашымі суродзічамі. З гэтай прычыны не давялося а. Аўгену пазнаёміцца з жыцьцём Беларусаў у Нотынгэм.

З Шэфілду а. Аўген накіраваўся ў Бірмінгэм. Служба Божая была заплянаваная там на нядзелю 27 жнівеня. Каб выкарыстаць час, які заставаўся да нядзелі, а. Аўген наведаў Беларусаў Кэмбрыджу. У Лёндане аб'ектамі зацікаўленьня нашага сьвятара была хворая беларуская жанчына ў больніцы ды Інтэрнат беларускай моладзі айцоў Марыянаў, які меўся неўзабаве адчыніцца. Тут айцец спаткаў ужо двух вучняў зь Нямеччыны ды пазнаёміўся з моўнымі цяжкасьцямі гэтых кандыдатаў.

Багаслужба ў Бірмінгэм адбылася ў царкве Сьв. Паўла. Арганізатарам і гаспадарам, сп. сп. Б. і К., сп. Карніловічу й усім іншым належыцца шчырае дзякуй і пахвала за ўсе іхныя турботы, каб аблягчыць місію нашага сьвятара.

Зь Бірмінгэм, праз Лёндан з кароткім спынкам у Беларускім Доме, а. Аўген меўся ад'ехаць назад у Бэльгію. Перад ад'ездам аўтар гэтых радкоў папытаўся айца пра агульныя ўражаньні зь ягонага аб'езду. Вось ягоны прыблізны адказ:

«Я вельмі цешуся, што зрабіў гэты аб'езд, і пры першай нагодзе яго паўтару, прысьвячаючы на гэта, калі будзе магчыма, больш часу. Вельмі шкадую, што затрымаўся так коратка ў Манчэстары й Кэмбрыджы, ды зусім ня быў у Нотынгэм. Хоць перапіска з гэтым асяродкам была навязаная, аднак з прычыны нястачы часу асабістага кантакту гэтым разам наладзіць не ўдалося. Шкадую таксама, што ня здолеў сустрэцца й пазнаёміцца зь беларускім сьвятаром а. Мірановічам і іншымі праваслаўнымі сьвятарамі, а таксама зь Беларусамі, зь якімі мае дарогі, ці то на царкоўнай, ці грамадзкай ніве, крыжуюцца ў Менску, у вольнай Беларусі, якое дачакаемся.

«Арганізаванасьць, ахвярная дапамога мне ўва ўсім, зацікаўленьне маімі патрэбамі падчас аб'езду, — усё гэта спамінаю з прызнаньнем і ўдзячнасьцяй. Гэтак было ўва ўсіх асяродках уключна зь Лёнданам.

«Прыкладам ахвярнасьці няхай будзе прыезд сп. Янкі А. і сп. Віценчыка з Манчэстару ў Бірмэнгам, каб дапамагчы зарганізаваць тут Багаслужбу, — працягваў а. Аўген. — Мае першыя добрыя ўражаньні зь Лёндану аб сп. Янку А. пацьвердзіліся — маё жаданьне вялікае, каб Усемагутны натхніў яго да пастановы служыць на Ніве Хрыстовай. Патрэба-ж беларускага сьвятара, які-б, бяз розьніцы палітычных перакананьняў, духова апекаваўся нашымі суродзічамі, у Ангельшчыне вялікая. Беларуская актыўная інтэлігенцыя сканцэнтраваная найбольш у Лёндане. Адлегласьць паміж асяродкамі на правінцыі часта вялікая, яны павінны працаваць аўтаномна, а на гэта не заўсёды стае ахвярных і здольных людзей. Вечнай памяці сп. Янка Лазута ў Францыі сваёй дзейнасьцяй ня раз даказаў перавагу нацыянальнага дынамізму над школьнымі дыплёмамі пасыўных інтэлігентаў-задавакаў...

«Радасна глядзець на дзетак і моладзь, зьмену й надзею будучыні, — гаварыў далей а. Аўген. — Аднак, цяжкое пытаньне дэнацыяналізацыі ня мінула мяне й тут. Агульнае ўражаньне: дзеткі й моладзь ня гутараць роднай мовай свайго бацькі, а як горка, што навет і ніводнага з бацькоў, а выключна мовай школы й асяродзьдзя — ангельскай. Будучы сам бацькам дзіцяці, які наведвае чужую школу, ды ведаючы, які штодзённы высілак патрэбны, каб утрымаць дзіця пры роднай мове, не хачу кідаць камень асуджэньня ў каго-колечы. Аднак зусім не магу зразумець і дараваць абодвум беларускім бацькам, сьведамым Беларусам, калі іхныя дзеці амаль не гавораць пабеларуску! Шукаючы адказу на пытаньне прычынаў гэтага, біручы на ўвагу ўсе магчымыя цяжкасьці прафэсыйнага жыцьця — адсутнасьць ў доме бацькоў — усё-ж належыцца сьцьвердзіць, што высілак беларускіх бацькоў дзеля навучэньня й утрыманьня роднае мовы зьяўляецца ў шмат якіх выпадках недастатковым і часта адкладаным да пазьнейшага часу. У шмат якіх выпадках выбіраецца шлях найменшага супраціву, і бацькі самі пачынаюць гаварыць чужой школьнай мовай дзяцей, або мовай маткі, калі яна чужынка. І пазьней ніхто ня робіць высілку, і ўсе гутараць мовай асяродзьдзя.

«Адказнасьць бацькоў тут ня толькі нацыянальная, але й чыста людзкая. Такія бацькі не выкарыстоўваюць магчымасьці прысвоіць сваім дзецям аднэй з славянскіх моваў, а гэта дало-б ім у будучыні вельмі шмат. Справа навет не ў навучаньні чытаньня й пісаньня ці граматыкі, а толькі ў вымаўленьні словаў, у апанаваньні хоць малога запасу словаў, зь якога потым лёгка разьвіць сотні й тысячы. Там, дзе няма нацыянальнае школы, адказнасьць за навучэньне сваіх дзяцей беларускай мовы ляжыць вылучна на бацьках. Іх тут заступіць ніхто ня можа. А ўзгадоўваць дзіця ў дзьвюх мовах ня цяжка: яно ня супраць гутарыць і трэйцяй, абы было зь кім. Існуе погляд, што да дзясятага году жыцьця належыцца даць дзіцяці навык вымаўляньня ўсіх магчымых моваў, якія яно будзе ў школе вывучаць ці ўжываць у жыцьці. З роднай-жа мовай адкладаць гэтай справы ўжо зусім нельга, — сказаў а. Аўген. — «Аднак, — сказаў ён яшчэ на заканчэньне нашай размовы, — я хацеў-бы тут пры нагодзе выказаць і свае асабістыя пажаданьні: я-б хацеў атрымаць магчымасьць пасапраўднаму выконваць місію душпастыра, магчымасьць ісьці ў кажную сям'ю, сустракацца прыватна, адчыніць сэрца й душу, і быць прыяцелем кажнаму Беларусу, ня гледзячы на ягоныя перакананьні ды палітычныя ці рэлігійныя погляды, знайсьці з кажным супольнае й высокае, дамовіцца з кажным, **што** нас усіх задзіночвае й лучыць — інакш кажучы, верыць і здабыць давер».

— Ці магчыма гэта чалавеку? — заўважыў скептычна аўтар гэтых радкоў.

— У Бога ўсё магчымае, — адказаў а. Аўген, — а мы зьяўляемся прыладай Боскіх плянаў і Провіду...

Дай-жа Вам, Божа, шмат посьпехаў, Ойча, у добрых намерах, ды да хуткага наступнага спатканьня ў Вялікай Брытаніі!

**В. Брытанскі,** Лёндан

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

### «ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ КАНАДЫЯНА» ПРА БЕЛАРУСЬ

Пераглядаючы навейшае выданьне «Энцыкляпэдыі Канадыяна», знаходзім артыкул пяра Міколы Сільвановіча (Вінніпэг) аб Беларусі й Беларусах у Канадзе, арганізацыях, парафіі. Важна усёж зазначыць што, ня гледзячы на няблагі зьмест аўтар падыходзіў да некаторых зьявішч тэндэнцыйна, не падаючы факту існаваньня парафіі БАПЦ у Таронта й іншага. Гэта абавязкава трэба было-б адпаведна скарэктаваць у бліжэйшай будучыні й не дапушчаць падобнага, калі мова йдзе аб беларускіх справах наагул, каб мець поўны вобраз тых падзеяў, што цяпер адбываюцца, ня толькі нам, але й чужынцам.

**А. -віч.**


НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).






**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не звярочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**